## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 76*

**Аб назначэнні В. І. БУРСКАГА Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча і прысваенні яму дыпламатычнага рангу Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла**

Назначыць Бурскага Віктара Іванавіча Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча і прысвоіць яму дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

*15 лютага 1996 г., г.Мінск.*

## У Канадзе палітычныя мемуары графа Прушынскага каштуюць 10 долараў. На Беларусі іх раздаюць бясплатна

**Праўда, толькі тым, хто валодае польскай мовай. Па-польску і выдадзены мемуары. Кніга, выпушчаная ў свет тыражом 5000 экземпляраў, носіць назву «Як я не стаў Прэзідэнтам Беларусі». Сярод іншых ілюстрацый, што аздабляюць выданне, і здымак спадара Прушынскага з Уладзімірам Вольфавічам Жырыноўскім. Давераная асоба графа ў Беларусі, Міхаіл Вашкевіч, наступным чынам тлумачыць гэтую акалічнасць:**

— Граф быў запрошаны на адно з пасяджэнняў палітсавета (маецца на ўвазе палітсавет ЛДПР). Жырыноўскі жартам сказаў Прушынскаму: «Пан Аляксандр, калі я стану Прэзідэнтам Расійскай імперыі, я прызначу вас губернатарам Польшчы. Вы згодны?»

— І што адказаў спадар Прушынскі?

— О'кей. Добра.

У хуткім часе, абяцае граф Прушынскі, яго мемуары ўбачаць свет і на беларускай мове.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам невялікі снег. Тэмпература паветра ў Гродне, Брэсце, Гомелі і Мінску — 2—4, Магілёве і Віцебску — 3—5 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак часам пройдзе снег, месцамі мяцеліца. Тэмпература ўначы — 6—11, удзень — 1—6 градусаў ніжэй нуля.

## МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 2 САКАВІКА

Надвор'е будзе вызначацца полем паніжанага атмасфернага ціску. Чакаецца далейшае паніжэнне ціску і ўтрымання кіслароду ў паветры. Метэазалежныя хворыя з захворваннямі сардэчна-сасудзістай і дыхальнай сістэм могуць адзначаць слабасць, санлівасць, раздражняльнасць.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, рабіць прагулкі на свежым паветры, рэгулярна прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом. Гіпатонікам неабходна прымаць танізуючыя сродкі.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

*Віншуем з 60-годдзем любага татачку* ***Камля Якава Мікалаевіча*** *з Вілейкі. Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця.*

**Дачка, зяць.**

**Сямён ШАРЭЦКІ:**

## «УЛАДА, ЯКАЯ НЕ ЎЛІЧВАЕ ВОПЫТ ПАПЯРЭДНІХ ПАКАЛЕННЯЎ, РАНА ЦІ ПОЗНА ПАЦЕРПІЦЬ КРАХ»

**«Чалавецтва ідзе ў адным напрамку — сацыялістычным», — так ахарактарызаваў свае погляды на развіццё грамадства Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, выступаючы на сустрэчы з прадстаўнікамі Беларускай арганізацыі ветэранаў. Яна адбылася 29 лютага ў сталічным Доме ветэранаў.**

Ветэранскі рух аб'ядноўвае больш за 2,5 мільёна чалавек, прадстаўляючы інтарэсы ветэранаў усіх катэгорый: вайны, працы, Узброеных Сіл, праваахоўных органаў, воінаў-інтэрнацыяналістаў. Аднак кіраўнік парламента адзначыў, што прыйшоў на гэту сустрэчу не толькі таму, што ветэраны складаюць амаль палову выбаршчыкаў рэспублікі. На думку Сямёна Шарэцкага, улада, якая не ўлічвае вопыт папярэдніх пакаленняў, рана ці позна пацерпіць крах. Менавіта з мэтай даведацца, што думаюць ветэраны аб падзеях, якія адбываюцца ў краіне, ён і правёў гэту сустрэчу.

Сваю прыхільнасць да сацыялістычнай ідэі кіраўнік парламента растлумачыў тым, што яна ставіць у аснову асноў інтарэсы чалавека, інтарэсы асобы. «Да такой мадэлі прыйшлі практычна ўсе развітыя краіны свету», — сказаў Сямён Шарэцкі. — Погляды на само паняцце «сацыялізм» могуць быць розныя, але справа не ў эпітэтах. Проста нельга ўсё уніфікаваць, а трэба ўлічваць розніцу не толькі ў прыродна-эканамічных умовах дзяржаў, але і ў менталітэце людзей».

На думку спікера парламента, у Беларусі пакуль няма дакладнага ўяўлення аб тым, якое грамадства мы імкнёмся стварыць. На яго погляд, адна з задач Вярхоўнага Савета — вызначыць асноўныя напрамкі ўнутранай і знешняй палітыкі нашай дзяржавы. «Я прапанаваў Прэзідэнту стварыць у парламенце спецыяльную камісію, якую б ён мог узначаліць», — сказаў Сямен Шарэцкі. — У яе ўвойдуць дэпутаты, прадстаўнікі ветэранскага руху, і мы разам павінны вызначыць мадэль нашага грамадства і мэту, да якой будзем ісці».

У час сустрэчы з ветэранамі кіраўнік парламента закрануў таксама пытанні ўзаемадзеяння заканадаўчай і выканаўчай галін улады. Некаторыя ўзнікшыя паміж імі непаразуменні Сямён Шарэцкі тлумачыць адсутнасцю ў рэспубліцы пэўнага часу закадаўчага органа. Паводле яго слоў, Вярхоўны Савет наладжвае канструктыўнае ўзаемадзеянне як паміж самімі дэпутатамі, так і з выканаўчай уладай.

У канцы сустрэчы кіраўнік парламента выслухаў прапановы і заўвагі ветэранаў, адказаў на іх пытанні.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## З КУФЭРКА БАБУЛІ ВАРВАРЫ

Выставу беларускіх рушнікоў «З куфэрка бабулі Варвары» наладзіў Наваполацкі цэнтр нацыянальнай культуры. У экспазіцыі прадстаўлена 20 рушнікоў 80-гадовай Варвары РамаНаўны Труханові ч. Акрамя тканых рушнікоў выстаўлены аздобленыя вышыўкамі і карункамі абрусы, пакрывалы.

Адметна, што бабуля выкарыстоўвае гэтыя рэчы па прамому прызначэнню, хапіла іх з асабістых «запаснікаў» і для выстаўкі.

Як згаварыліся, прадметы побыту дэманструюць яшчэ два музеі Віцебска. Выстава карункаў ужо арганізавана у цэнтры народных рамёстваў і мастацтва «Задзвінне», а ў абласным краязнаўчым музеі рыхтуецца экспазіцыя е запаснікаў. На ёй будуць прапанаваны прадметы прыкладнога прызначэння майстроў канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў. Яны не выстаўляліся апошняе пяцідзесяціґоддзе.

**Паліна АЛЯКСАНДРАВА.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ...НАБЫЦЬ БУТЭЛЬКУ ГАРЭЛКІ

**Як засведчыць чытач, які не ўжывае гэтай гаручай вадкасці нават у вялікія святы, але з нагоды тых ці іншых жыццёвых абставінаў усё ж вымушаны час ад часу шукаць у крамах бутэльку-другую, праблем з набыццём гэтага тавару не існуе зараз увогуле.**

Праўда, многія яшчэ прыгадваюць тыя часы, калі набыць «вадкую валюту» можна было толькі з вялікімі цяжкасцямі. Цяпер жа на спажыўца абрынулася зусім іншая навала: у выглядзе шматлікіх іншаземных гатункаў гарэлкі, ад погляду на паліцы з якой, бывае, стракаціць у вачах. Магчыма, прагучыць смешна, але аўтар лічыць, што нічога лепшага за айчынную прадукцыю не бывае, таму падчас вандравання па крамах у разлік не браліся розныя «смірновы», «пятровы», «івановы» і г. д.

Кошт жа айчыннай гарэлкі ў мінскіх крамах сёння такі (за бутэльку ёмістасцю 0,5 літра ў звычайным афармленні): «Гароднія» і «Стары замак» — 24.600 рублёў. «Два буслы» — 23.400, «Белая Русь» (на аснове спірту «Люкс») — 26.600, «Люкс» — 26.700, «Крышталь-100» — 25.800, «Маскоўская асобая» — 24.700, «Пшанічная» — 24.700, «Беларусь» — 24.800, «Руская» — 24.500 рублёў. Калі каму трапіць на вочы бутэлька «Нёманскай» і ўзнікне жаданне яе набыць, трэба будзе выкласці з кішэні 25.000 рублёў, за «Белыя росы» — столькі ж. «Клімавіцкая арыгінальная» аблегчыць кашалёк на 24.500, «Полацкая асобая» — на 24.300 рублёў. Каму не падабаецца звычайнае афармленне бутэлькі, могуць набыць прадукцыю ў экспартным (з вінтавым каўпачком) або спецыяльным (у керамічным, фарфоравым ці хрустальным посудзе, фігурных бутэльках або бутэльках «штоф») афармленні. За сувенірны выгляд трэба будзе тады дадаткова заплаціць за бутэльку ёмістасць 0,5 літра — 1000 рублёў, за бутэльку 0,7 літра — 1500 рублёў.

Дарэчы, нібыта для тых, што не злоўжывае гарэлкай, зусім нядаўна ў продажы з'явіліся стограмовыя кілішкі з полістыролу з алюмініевай накрыўкай з «Рускай» і «Двума буслам і». Без кошту посуду яны абыдуцца адпаведна ў 4.900 і 4.700 рублёў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**● БАЕВІКІ АКТЫВІЗУЮЦЦА**

За мінулыя суткі пазіцыі федэральных войскаў у Чачні абстрэльваліся 21 раз. Раненні атрымалі двое расійскіх вайскоўцаў. Прадстаўнік прэс-цэнтра аб'яднанага камандавання групоўкі федэральных войскаў адзначыў, што за апошнія два дні праявілася яўная тэндэнцыя да актывізацыі дзеянняў дудаеўскіх баевікоў у Грозным.

**● РАЗВЕДСЛУЖБА ГЕРМАНІІ АРЫШТАВАЛА ТРАІХ СВАІХ АГЕНТАЎ**

Шэф разведвальнай службы Германіі Конрад Портфне падаў у адстаўку ў знак пратэсту супраць адмовы ўрада задаволіць патрабаванне аб звальненні двух высокапастаўленых супрацоўнікаў ведамства разведкі, якія падазраюцца ў незаконным гандлі зброяй. Нямецкая разведслужба БНД арыштавала траіх сваіх жа агентаў, якія раскралі 300 тысяч долараў, што прызначаліся для выплат шпіёнам у расійскім ваенным кіраўніцтве. Акрамя гэтага агенты перапрадалі англійскай разведцы сакрэтныя матэрыялы, атрыманыя з Расіі.

**● ЗНЯТА БЛАКАДА САРАЕВА**

Міністр унутраных спраў Босніі паведаміў аб заканчэнні блакады Сараева, якая працягвалася чатыры гады. Напярэдадні баснійскі ўрад аб'явіў кантроль над адным з сербскіх прыгарадаў, праз які праходзіць стратэгічна важная шаша, што звязвае баснійскую сталіцу з іншымі гарадамі рэспублікі. Большасць сербаў, што жылі ў гэтым прыгарадзе, уцяклі адтуль па загаду ўрада баснійскіх сербаў.

**● СЛАВУТЫ РАСІЙСКІ ШАХМАТЫСТ УСТУПІЎ У САЦЫЯЛІСТЫЧНУЮ ПАРТЫЮ СЕРБІІ**

Знакаміты расійскі грасмайстар Анатоль Карпаў уступіў у кіруючую сацыялістычную партыю Сербіі. Як паведамляе бялградская газета «Палітыка», Карпаў з'яўляецца першым іншаземцам, які ўступіў у партыю прэзідэнта Мілошэвіча. На сходзе партыйнай ячэйкі яму быў урачыста ўручаны партыйны білет.

**● ЗША УВОДЗЯЦЬ У АДНОСІНАХ ДА КУБЫ БОЛЬШ ЖОРСТКІЯ САНКЦЫІ**

Прэзідэнт Злучаных Штатаў Біл Клінтан і кангрэс ЗША, у якім дамінуюць рэспубліканцы, дамовіліся аб узмацненні санкцый супраць Кубы. Гэтымі новымі санкцыямі Вашынгтон спрабуе адпудзіць замежныя фірмы ад інвестыцый на Кубе і пазбавіць такім чынам гэту краіну такіх неабходных ёй валютных паступленняў.

**● ГРАМАДСКАЕ ЖЫЦЦЁ Ў БЕЙРУЦЕ ПАРАЛІЗАВАНА**

Урад Лівана ўвёў па ўсёй краіне каменданцкую гадзіну з мэтай прадухіліць усеагульны страйк. Прафсаюзы пагражаюць правесці гэту акцыю, каб дабіцца павышэння заработнай платы і выказаць пратэст супраць забароны дэманстрацый, якая была ўведзена тры гады таму. Пасля ўвядзення каменданцкай гадзіны страйк быў адменены, каля 1600 чалавек арыштаваны.

**● БОЛЬШ ЯК ПАЛОВА РАСІЯН ЧАКАЮЦЬ ФАЛЬСІФІКАЦЫІ ВЫНІКАЎ ВЫБАРАЎ**

Амаль дзве трэці грамадзян Расіі (62 працэнты) лічаць, што вынікі галасавання па выбарах прэзідэнта Расіі 16 чэрвеня могуць быць падтасаваны. У анкетаванні, якое праводзілася з 26 па 31 студзеня, узялі ўдзел 1648 расіян. З ліку рэспандэнтаў, якія сумняваюцца ў непрадузятасці тых, хто будзе падлічваць галасы, 36 працэнтаў лічаць, што падтасоўкі будуць не вельмі істотнымі, а 26 працэнтаў чакаюць сур'ёзнай фальсіфікацыі вынікаў. Толькі 18 працэнтаў апытаных упэўнены ў тым, што выбары пройдуць справядліва, яшчэ 20 працэнтаў не змаглі даць адказ.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

На салёны агурок злавіў ментуза паўпуда вагой рыбалоў-аматар з Петразаводска, навуковы супрацоўнік Васіль Мацюшкін.

Сябры вырашылі пажартаваць над ім: выцягнулі з лункі яго вуду і падчапілі на кручок салёны агурок, які застаўся пасля распіцця традыцыйнай паўлітроўкі і ляжаў побач на газеце.

Але ўсім даўно вядома, што смяецца той, хто смяецца апошнім. Трэба было бачыць фізіяноміі сяброў, калі, прачнуўшыся, Мацюшкін вырашыў праверыць снасць і раптам радасна крыкнуў, што на кручку буйная рыбіна. Пасля працяглай барацьбы падводны волат быў выцягнуты на паверхню. Гэта першы выпадак на Анежскім возеры, калі рыба ўзялася на салёны агурок.

**ЭКСТРА-ПРЭС**

*Спявак Скетмэн Джон прыехаў у Кіеў на гастролі і застаўся амаль у тым, у чым яго нарадзіла маці. Увесь багаж спевака поўнасцю знік у кіеўскім аэрапорце Барыспаль. Адзенне для вячэрніх выступленняў азадачанаму Джону давялося купляць у Кіеве. На прэс-канферэнцыі Джон паскардзіўся: «Усё адзенне, што ў мяне ёсць, — гэта тое, што на мне апранута».*

**«ІнтэрМедыя»**

Узбройваюцца работнікі цэментнага завода Ніжняга Тагіла. У лік зарплаты ім прапанавана набыць спецсродак. Аэразольнае прыстасаванне новай мадэлі па далёкасці прымянення пераўзыходзіць газавую зброю. Гэтая «цацка» вырабляецца на адным з нумарных заводаў Кірава і ў Ніжні Тагіл паступіла па ўзаемаразліку. За 150 тысяч рабочыя завода могуць атрымаць аэразольнае прыстасаванне і 10 патронаў да яго.

**ЕАН.**

*ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

## АБ НЕКАТОРЫХ ПЫТАННЯХ РАБОТЫ МЯСЦОВЫХ САВЕТАЎ ДЭПУТАТАЎ

У адпаведнасці з артыкулам 120 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь мясцовыя Саветы дэпутатаў павінны зацвярджаць праграмы эканамічнага і сацыяльнага развіцця, мясцовыя бюджэты, вызначаць парадак кіравання і распараджэння камунальнай уласнасцю, вырашаць іншыя неадкладныя пытанні, аднесеныя Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і дзеючым заканадаўствам да выключнай кампетэнцыі мясцовых Саветаў дэпутатаў. Аднак, па выніках выбараў у маі, лістападзе і снежні 1995 года ў шэрагу мясцовых Саветаў не выбрана дастатковая колькасць дэпутатаў, каб пачаць работу ў правамоцным складзе.

У той жа час цэнтральныя і мясцовыя органы выканаўчай улады ўмешваюцца ў фарміраванне структуры, штатаў і дзейнасць мясцовых Саветаў дэпутатаў, што супярэчыць гарантаванаму Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь прынцыпу падзелу ўладаў і іх самастойнасці ў выкананні сваіх абавязкаў.

У сувязі з гэтым Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Мясцовыя Саветы дэпутатаў, правамоцны склад якіх не выбраны, у адпаведнасці з артыкулам 8 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» захоўваюць паўнамоцтвы і працягваюць выкананне сваіх функцый у межах і аб'ёме, вызначаных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, да выбрання ў правамоцным складзе і адкрыцця першага пасяджэння адпаведных Саветаў дэпутатаў новага склікання.

2. З мэтай забеспячэння пераемнасці ў рабоце рэкамендаваць гэтым мясцовым Саветам дэпутатаў прыцягваць да ўдзелу ў мерапрыемствах, якія праводзяцца імі, дэпутатаў новага склікання з правам дарадчага голасу.

3. Раённыя ў гарадах Саветы дэпутатаў захоўваюць свае паўнамоцтвы ў поўным аб'ёме да вырашэння пытання аб іх існаванні ці ліквідацыі Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

4. Рэкамендаваць тэрытарыяльным выбарчым камісіям па выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў арганізаваць правядзенне выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў адначасова з давыбарамі дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

5. Зыходзячы з таго, што Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 снежня 1995 года № 519 «Аб некаторых пытаннях забеспячэння дзейнасці мясцовых Саветаў дэпутатаў» супярэчыць артыкулам 8 і 9 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь», прапанаваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь адмяніць гэты Указ і распараджэнні мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, зробленыя ў сувязі з яго рэалізацыяй.

Падтрымліваючы палітыку скарачэння расходаў на ўтрыманне органаў дзяржаўнага кіравання, якая праводзіцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, рэкамендаваць абласным, гарадскім і раённым Саветам дэпутатаў самастойна прыняць рашэнні аб скарачэнні штатаў не менш чым на 30 працэнтаў і расходаў на ўтрыманне свайго рабочага апарату.

6. Прапанаваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь адмяніць Указы ад 20 кастрычніка 1995 года № 433 «Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку вырашэння пытанняў, звязаных з аб'яднаннем аднайменных адміністрацыйных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр» і № 434 «Аб аб'яднанні адміністрацыйных адзінак Рэспублікі Беларусь, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр» у сувязі з тым, што яны супярэчаць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**

*22 лютага 1996 г., г. Мінск., № 87-XIII.*

## ЯК УЗНІКЛА ЗАДУМА РУБРЫКІ І ЯЕ НАЗВА?

**Па прапанове Анатоля Вярцінскага, які пачынае стала супрацоўнічаць у рэдакцыі «Звязды», мы адкрываем сёння новую рубрыку «Народ, беларускі народ!..»**

**Рубрыка адпавядае інфармацыйна-тэматычнай і агульнай грамадскай накіраванасці нашага выдання, і мы спадзяёмся, што яна «прыжывецца» на яго старонках, знойдзе як прамую, так і зваротную сувязь з чытачом. А зараз слова ініцыятару і будучаму вядучаму рубрыкі — нядаўняму дэпутату Вярхоўнага Савета, заслужанаму дзеячу культуры Рэспублікі Беларусь Анатолю Вярцінскаму.**

**Рэдакцыя «Звязды»**

# «НАРОД, БЕЛАРУСКІ НАРОД!..»

Напрыканцы мінулага года, яшчэ падчас працы ў камісіі Вярхоўнага Савета я збіраўся выступіць у друку з нататкамі, як кажуць, на злобу дня. Абдумваў іх план, сабіраў матэрыял, рабіў выпіскі і накіды. Прыкідваў дзе, у якім выданні — газеце ці часопісе — гэтыя нататкі можна будзе надрукаваць. Тэма акрэслілася, а назва знайшлася не адразу. Знайшоў яе, калі знаёміўся з новым, трохтомным выданнем Збору твораў Максіма Багдановіча і спыніў — у які ўжо раз! — позірк на вершы, што ў памяці кожнага з нас і што пачынаецца (ён не мае загалоўка) радком: «Народ, Беларускі Народ!!» Вось табе і назва, падумаў маючы на ўвазе радок. Радок, дзе ўсе словы з вялікай літары. Радок, дзе асэнсаванне мінулага і адначасова прадчуванне будучыні. Радок — духоўны квант. Радок-выклік. Радок-дэвіз...

Радок, які, як я зразумеў, можа быць ужыты не толькі як назва артыкула, нататак, але і саслужыць добрую службу ў якасці дзейснага найменне адпаведнай газетнай рубрыкі.

Магу нагадаць, карыстаючыся выпадкам, што верш «Народ, Беларусі Народ!..» быў напісаны ў 1913 годзе — годзе выдання адзінага прыжыццёвага зборніка паэта «Вянок». Але ў зборнік ён не ўвайшоў. Быў упершыню апублікаваны пад загалоўкам «З пасмяротных твораў Максіма Багдановіча» толькі ў 1919 годзе ў другім нумары віленскага часопіса «Беларускае жыццё» вядомым бібліёграфам, гісторыкам беларускай літаратуры і адным з аўтараў «Нашай нівы» Рамуальдам Зямкевічам. Страшна падумаць, што рукапіс твору мог не ўбачыць свет, мог згубіцца, прапасці (рукапісы, можа, і не гараць, але часам прападаюць бясследна). Бо без яго цяжка ўявіць тую надзвычай істотную частку спадчыны Максіма Багдановіча, якую складаюць вершы «Краю мой родны! Як выкляты Богам...», «Рушымся, браццця, хутчэй», «Слуцкія ткачыхі», «Пагоня», «Беларусь, твой народ дачакаецца», а таксама артыкулы «Глыбы і слаі», «Забыты шлях», «Сталецце руху беларускага народа», «Беларускае адраджэнне», «Беларусы», «Хто мы такія?», «На беларускія тэмы», «Голас з Беларусі», — інакш кажучы творы, прасякнутыя матывамі адраджэння, абуджэння самасвядомасці народа, нацыянальна-вызваленчым пафасам.

Леў Талстой дзяліў мастакоў слова на «літаратараў» і «прарокаў», якія (апошнія) гавораць, «як уладу маючыя» («как власть имущие»). Аўтар верша «Народ, Беларускі Народ!..», «Пагоні» і некаторых іншых твораў адносіцца, безумоўна, да катэгорыі апошніх, да тых, хто гаворыць, «як уладу маючыя», хто ўсведамляе сваю адказнасць за лёс народа, роднага краю, хто прамаўляе на высокай прарочай ноце:

*Ты крыкнуць не вольны «Ратуйце!»*
*І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.*
*Пачуйце жа гэта, пачуйце,*
*Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!*

І гэта асаблівасць мастакоўскага дару Максіма Багдановіча абумоўлена, пэўна, перш за ўсё яго патрыятычнай пазіцыяй, тым, што ён, як слушна зазначыў у адным сваім артыкуле Ніл Гілевіч, з'яўляецца «паэтам з выразна акрэсленым нацыянальным складам мыслення і бачання».

У гэтай сувязі, мяркую, будзе, дарэчы, сказаць і наступнае. Творчая спадчына Максіма Багдановіча, яго урокі як мастака-патрыёта і грамадзяніна з'яўляюцца на сённяшні дзень як ніколі, можа, актуальнымі, уяўляюць сабой важкія, неабвержаныя, з пэўным знакам аргументы — калі не цэлую сістэму аргументацыі — у спрэчках аб нашых палітычных і духоўных арыенцірах, аб беларуска-расійскіх стасунках, аб так званай «славянскай еднасці», аб месцы Беларусі з яе гістарычным і культурным багажом у сусветнай супольнасці.

Народжаны ў Беларусі, у яе галоўным горадзе, Максім Багдановіч, па волі лёсу, жыў, рос, вучыўся і працаваў у Расіі, выдатна валодаў рускай мовай, ведаў і любіў рускую літаратуру, пісаў пра творчасць яе асобных прадстаўнікоў, ад Ламаносава да Брусава, па-руску пісаў артыкулы, нарысы і нават вершы, нават сам перакладаў на рускую мову, напрыклад з украінскай... Плюс яшчэ такі немалаважны біяграфічны факт: яго бацька, Адам Ягоравіч, быў не толькі ў блізкіх сяброўскіх, але і ў сваяцкіх, па жонках, адносінах з Максімам Горкім (па-свойму сімвалічна, што помнікі двум Максімам знаходзяцца недалёка адзін ад аднаго, хоць і на супрацьлеглых берагах Свіслачы). Але... Максім Багдановіч, тым не менш, застаўся як асоба і паэт беларусам, верным сынам свайго народа, песняром Беларусшчыны. Ён звяртаў увагу на русіфікатарскую палітыку імперскіх уладаў, якія, як ён пісаў, «прыглушалі нацыянальныя сілы беларускага народа». Ён зазначыў, што «струны нацыянальнага пачуцця... не могуць зазвінець у расійцаў так, як у нашай пісьменнасці». Ён з трывогай пісаў пра «тыя мінусы, якія нясе з сабою выкладанне ў беларускай школе на вялікарускай мове».

Ён валодаў украінскай мовай, прытым настолькі, што мог на ёй пісаць. Ён перакладаў з украінскай, даследаваў творчасць украінскіх пісьменнікаў, паэтаў і празаікаў. Ён вывучаў польскую мову і перакладаў з яе. Ён, па сведчанні яго бацькі, «наогул любіў славянскіх паэтаў і амаль з усімі выдатнымі паэтамі чэхаў, харватаў, сербаў і балгар быў знаёмы па «Паэзіі славян» Гербеля і вышукваў пераклады у Берга і ў старых і новых часопісах. Спрабаваў вывучаць (працяг цытаты — А. В.) славянскія мовы, карыстаючыся для гэтага перакладамі Евангелля. Чытаў Евангелле на чэшскай і сербскай мовах... Наогул ён знаходзіў, што рускія, асабліва беларусы павінны быць знаёмыя з усімі славянскімі мовамі, так як нам, беларусам, гэта даецца за ўсё лягчэй».

Ён жыва цікавіўся гісторыяй, літаратурай і этнаграфіяй славянства, пра што красамоўна сведчаць яго артыкулы і нарысы «Галіцкая Русь», «Чырвоная Русь», «Угорская Русь», «Браты-чэхі», «Вобразы Галіцыі ў мастацкай літаратуры», «Украінскае казацтва». Але ў яго цікавасці і сімпатыях да братоў-славян не прамільгвае ніводнай ноткі «гэй-славянства», панславісцкіх спекуляцый. Наадварот, ён акцэнтуе на асаблівасцях гісторыі, побыту і культуры таго ці іншага народа, на яго імкненні да самазахавання і самастойнасці.

«Але чэхі ўсё ж дабіліся свайго! — ускліквае ён з адабрэннем. — Упарта змагаючыся, крок за крокам заваёўваючы новыя і новыя правы і ўступкі, яны ператварылі сваю вобласць у краіну сапраўды чэшскую, краіну славянскую». Ну, а па-другое — што асабліва тут важна — свае ўвагу і розум у дачыненні да лёсу іншых славян паэт самым цесным чынам звязвае з надзеяй на нацыянальнае адраджэнне свайго народа, са служэннем беларускай справе.

І яшчэ. Кола творчых інтарэсаў, пошукаў і памкненняў Максіма Багдановіча не абмяжоўвалася, як вядома, нацыянальнымі і славянскімі рамкамі. Ён усведамляў сябе манадай агульначалавечага быцця, часцінай усяго чалавецтва, пра што сведчыць яго незвычайная цікавасць да сусветнай літаратуры. Ён любіў і перакладаў французскую паэзію, вывучаў італьянскую мову, чытаў і перакладаў немцаў і сам перакладаў з нямецкай, чытаў не толькі ў перакладах, але і арыгінале антычных аўтараў. Яго нават хапала для таго, каб удзяліць увагу першым перакладам на рускую мову «Гітанджаляў (ахвярапесняў)» Рабіндраната Тагора і адзначыць «красоту и изобилие сравнений в поэзии агора, оригинальных, но отнюдь не вычурных».

Паэт гаварыў пра «скарбніцу светавай культуры»; Усё гэта давала мне падставу гаварыць на ўрачыстым вечары, які быў наладжаны ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння паэта ў парыжскай штаб-кватэры ЮНЕСКО, пра тое, што Максіма Багдановіча можна з поўным правам аднесці да ліку папярэднікаў-прадвеснікаў ЮНЕСКО з яе высакароднымі, гуманнымі ідэаламі, яе намаганнямі ў імя творчага, інтэлектуальнага і духоўнага супрацоўніцтва паміж людзьмі і народамі.

Але, зноў-такі, пры ўсёй універсальнасці мастакоўскай постаці Максіма Багдановіча ён заставаўся перш за ўсё сынам свайго беларускага народа і лічыў сваім кроўным абавязкам служыць яму, яго культуры, яго духоўнаму развіццю. Яго пераклады і наследаванні, яго схільнасць браць эпіграфамі радкі з твораў іншамоўных паэтаў (як вядома, знакамітай «Зорцы Венеры» папярэднічае чатырохрадкоўе французскага паэта Сюлі-Прудома) сведчыць пра яго імкненне ўсяляк узбагачаць нацыянальнае прыгожае пісьменства, пераносіць лепшыя чужыя кветкі на родную глебу. «Было б горш, чым нядбальствам, — пісаў ён у Забытым шляху», — нічога не ўзяць з таго, што сотні народаў праз тысячы год сабралі ў скарбніцу светавой культуры. Але занасіць толькі чужое, не развіваючы свайго, — гэта яшчэ горш: гэта значыць глуміць народную душу».

Ну вось, здаецца, і ўсё. Узяўшыся вытлумачыць назву рубрыкі, я фактычна зрабіў і ўводзіны ў яе. Мушу дадаць яшчэ, што яна ўяўляецца мне адметнай збольшага па падыходах, ракурсах, новых «зрэзах» ў вырашэнні тэмы беларускасці, лёсу народа, нешматслоўнай і разнастайнай ў жанрава-стылёвых адносінах (нататка, дакумент, фактаграфічнае сведчанне, успамін, мастацкі твор ці ўрывак, фрагмент з яго, рэцэнзія, каментарый да падзеі або памятнай даты, цытата ці вершаваныя радкі на падвёрстку). Выказваю спадзяванне, што ў рубрыкі знойдуцца не толькі чытачы, але і аўтары, і запрашаю да супрацоўніцтва.

І ў заключэнне — неабходна даведка: у канцы года, а дакладней — 12 снежня па новым стылі спаўняецца 105 гадоў з дня нараджэння Максіма Багдановіча і... роўна 100 гадоў з таго часу, калі ён з бацькам пакінуў Радзіму і пераехаў у Расію, у Ніжні Ноўгарад. Удалечыні ад роднай зямлі, на чужыне, спачывае яго прах. «Народ, Беларускі Народ!..»

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**



*МЕРКАВАННЕ*

## ДА ЯКОЙ МЯЖЫ МАГЧЫМА ІНТЭГРАЦЫЯ?

Ці застанецца ў бліжэйшы час Беларусь на карце свету як незалежная дзяржава? Гэта пытанне, якое было актуальным з першых дзён пасля снежня 1991 года, сёння як ніколі вострае, — зноў стала на парадак дня. Яго выклікалі да жыцця новыя інтэграцыйныя ініцыятывы, што прадэманстраваны падчас нядаўняга візіту ў Маскву Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі.

Сумесная заява кіраўнікоў дзвюх дзяржаў, падпісаная 27 лютага, — гэта, па сутнасці, на мой погляд, намер аб'яднацца ў канфедэратыўную дзяржаву. Менавіта такая перспектыва праглядвае з даручэння прэзідэнтаў, дадзенага ўрадам: у месячны тэрмін падрыхтаваць праект дагавора, які б прадугледжваў стварэнне сумесных органаў дзяржаўнага кіравання. Узнікненне наднацыянальных, наддзяржаўных уладных структур — гэта, лічу, і ёсць першая прымета таго, што дзяржава часткова страчвае сваю незалежнасць.

Аднак, на маю думку, не варта празмерна драматызаваць сітуацыю. На гэта ёсць шмат важкіх прычын.

Па-першае, сумесная заява падпісана за тры месяцы да прэзідэнцкіх выбараў у Расіі. Яна — састаўная частка перадвыбарнай кампаніі Барыса Ельцына. Як і любыя перадвыбарныя абяцанні і праграмы, яна ў многім арыентавана на тое, каб патрафіць грамадскім настроям і выклікаць сімпатыі выбаршчыкаў. Пасля 16 чэрвеня 1996 года ў Крамлі ў любым выпадку па-іншаму будуць глядзець на інтэграцыйныя працэсы з Беларуссю. Пераможа Ельцын (што малаверагодна) — шмат якія былыя абяцанні забудуцца. Пераможа Зюганаў ці нехта з нацыянал-патрыётаў — будзе іншая размова.

Па-другое, заява — пакуль толькі дэкларацыя, дэманстрацыя добрых намераў. Прычым многія з гэтых намераў сёння выглядаюць далёкай перспектывай. Для прыкладу, задача ўзгаднення і сінхранізацыі эканамічных рэформаў у цяперашніх умовах, калі эканоміка Беларусі на ўсіх напрамках адстала ад Расіі на некалькі гадоў, — гэта нешта з галіны задач на наступнае тысячагоддзе. І ўжо, ва ўсякім разе, спадзявацца на тое, што нешта тут можа зрушыцца з месца на працягу бліжэйшага месяца — ніяк не выпадае. Гэтак жа праблематычна выглядае і сумесная дзейнасць у такой галіне, як абарона правоў чалавека і грамадзяніна. Дужа розныя стандарты дзейнічаюць у нашых краінах (гэты факт, дарэчы, прызнаны многімі міжнароднымі арганізацыямі). І было б вельмі няблага, каб мы бралі прыклад з Расіі — у тым, напрыклад, як абараняецца там права асобы на свабоду слова, друку, аб'яднання ў прафсаюзныя арганізацыі.

Па-трэцяе, як сведчыць гісторыя СССР і СНД апошніх пяці-шасці гадоў, інтэграцыйныя дэкларацыі часцей застаюцца на паперы, чым увасабляюцца ў рэальнае жыццё. Цяжкасці з іх рэалізацыяй выкліканы вялікімі эканамічнымі і палітычнымі праблемамі. Расія, па-мойму, не гатова плаціць мільярды долараў за прыхільнасць якой бы ні было блізкай суседкі — тым больш, калі гэтая суседка часта не ўмее разумна гаспадарыць на ўласнай зямлі. З другога ж боку — за чатыры гады незалежнасці ў самой Беларусі ўзнікла ўнушальная сацыяльная праслойка палітыкаў і бізнесменаў, не зацікаўленых у паніжэнні свайго статусу.

Па-чацвёртае, гістарычны вопыт еўрапейскіх дзяржаў, якія спрабавалі на працягу XVIII—XX стагоддзяў завязваць канфедэратыўныя сувязі (Швецыя—Фінляндыя, Нарвегія—Данія, Данія—Ісландыя), сведчыць пра тое, што рана ці позна гэтыя сувязі разрываліся. На сённяшні дзень прыкладу ўдалай канфедэрацыі, пры якой краіны заставаліся б незалежнымі, не існуе. Некаторыя ў якасці такога прыводзяць Швейцарскую Канфедэрацыю — але там ад гэтай формы дзяржаўнага ўладкавання засталася толькі назва. Любы швейцарскі кантон залежны ад Бёрна не менш, чым Іванаўскі раён — ад Мінска. І наўрад ці Беларусь і Расія могуць стаць першаадкрывальніцамі ў гэтай галіне.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## ПРЫ ДОБРААХВОТНАЙ АДМОВЕ АД АЛІМЕНТАЎ ДАВЕДКУ НЕ ДАЮЦЬ

***У мяне ёсць сын шасці гадоў. Разведзеная, аліментаў не атрымліваю. У суд наконт спагнання аліментаў не звярталася, бо былы муж нідзе не працуе. Цяпер, каб атрымаць дапамогу на дзіця, мне патрэбна даведка аб даходах. На атрыманне жыллёвай субсідыі яна таксама патрэбна. У судзе, дзе я атрымлівала даведку аб неспагнанні аліментаў у 1992 і 1993 гадах, мне адмовілі ў яе выдачы. Якім жа дакументам можна пацвердзіць факт неспагнання аліментаў?***

**З павагай Аліна Віктараўна Зуева,** *Магілёўская вобласць*

Адказ дае спецыяліст аддзела сям'і і гендэрных праблем Міністэрства сацыяльнай аховы Таццяна Шэметавец.

— У адпаведнасці з Палажэннем аб парадку налічэння сукупнага даходу на члена сям'і пры назначэнні дапамогі на дзяцей, калі маці добраахвотна адмовілася ад аліментаў (няма рашэння суда аб спагнанні аліментаў), у даход уключаецца 50 працэнтаў велічыні мінімальнай заработнай платы за той год, за які вылічваецца сукупны даход сям'і. За 1995 год гэтая велічыня складае 45 тысяч рублёў.

Пры вылічэнні даходу сям'і пры прадастаўленні безнаяўных жыллёвых субсідый у адпаведнасці з рашэннем Рэспубліканскага каардынацыйнага цэнтра па арганізацыі работы службаў субсідзіравання № 2 ад 2 лістапада 1995 года ў вышэйпрыведзеным выпадку ў даход сям'і уключаецца 25 працэнтаў сярэдняй заработнай платы па народнай гаспадарцы.

Даведка з суда можа быць прадастаўлена ў тым выпадку, калі жанчына падавала на аліменты, але бацька ўхіляецца ад іх уплаты.

## НА РАБОТУ Ў ЗАМЕЖЖА ДАЛЁКАЕ І БЛІЗКАЕ

***Калі ласка, дапамажыце звязацца з якой-небудзь фірмай, каб мець магчымасць паехаць на працу за мяжу. Спецыяльнасці — будаўнік, баец жывёлы, магу выконваць іншыя работы. Нашай сям'і тэрмінова патрэбны грошы (каля трох тысяч долараў), каб зрабіць аперацыю 11-гадоваму сыну.***

**А.КАВАЛЁЎ,** *г.Магілёў.*

Па адказ карэспандэнт газеты звярнуўся ва ўпраўленне знешняй міграцыйнай службы Міністэрства працы. Як адзначыў намеснік начальніка гэтага ўпраўлення Анатоль Ігнатавіч Лемешаў, на жаль, спіс фірмаў, якія б прапаноўвалі высокааплатную работу за мяжой, нельга назваць аб'ёмным. Амаль тры гады дзейнічае фірма «Астрахан» у Мінску (тэлефон 64-74-61). Яна мае права накіроўваць на будаўнічыя аб'екты ў Маскву і Уфу. Мінімальная працягласць кантракта — 4 месяцы, сума заробку — 250—300 долараў у месяц. Сталічная фірма «Аміда» (тэлефон 26-55-68) накіроўвае на работу ў Германію тынкоўшчыкаў-каменшчыкаў. Работу ў Расіі прапануюць мінская фірма «Вілената» (тэлефон 33-63-95) і бабруйская «Дар» (тэлефон 7-53-04). Гэтыя фірмы, а таксама сталічная «Савекс» (тэлефон 32-81-60), якая прапануе работу ў Чэхіі на лесараспрацоўках, нядаўна атрымалі ліцэнзіі Міністэрства працы на ажыццяўленне гэтага віду дзейнасці.

## ІНСТЫТУТ ПРАПІСКІ НЕ АБМІНУЦЬ...

***Мая родная сястра, як і я, нарадзілася ў горадзе Мінску і пэўны час тут пражывала. Аднак зараз яна пастаянна прапісана ў расійскім горадзе Смаленску. Адкажыце, калі ласка, ці мае права яна, не грамадзянка Беларусі, набыць ва ўласнасць кватэру ў горадзе Мінску і куды трэба звяртацца, каб аформіць дакументы?***

**А. ПЯТРОЎСКІ,** *г. Мінск*

Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь, парадак набыцця кватэр (жылых дамоў) ва ўласнасць рэгулюецца Часовым палажэннем аб парадку куплі-продажу кватэр (жылых дамоў), зацверджаным пастановай Кабінета Міністраў РБ № 589 ад 31 жніўня 1993 года. Згодна з ім права на набыццё кватэры (жылога дома) ва ўласнасць маюць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражывалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь на 12 лістапада 1991 года (на момант уступлення ў сілу Закона РБ «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь), якія маюць пастаянную прапіску ці грамадзяне, якія пастаянна пражываюць у дадзеным населеным пункце. Парадак продажу грамадзянам кватэр у дамах дзяржаўнага жыллёвага фонду мае шэраг асаблівасцей. У першую чаргу памяшканні дзяржаўнага жыллёвага фонду прадаюцца грамадзянам, якія стаяць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў.

## КАМУ ПАДАРЫЦЬ НОВЫ АЎТАМАБІЛЬ?

***Паважаная рэдакцыя! Два тыдні назад, знаходзячыся за мяжой, купіў аўтамабіль, «растаможыў» яго, вядома, ужо па новых правілах. Хачу падарыць яго свайму сыну, але знаёмыя сказалі, што гэтага зрабіць нельга...***

**І. ЖДАНОВІЧ,** *г. Гомель*

Згодна з устаноўленымі правіламі, вы можаце перадаць аўтамабіль у карыстанне па даверанасці члену вашай сям'і. Гэта значыць асобе, якая «сумесна пражывае з вамі і вядзе з вамі агульную гаспадарку». Да такіх асоб адносяцца муж або жонка, бацькі, дзеці, усынавіцелі, усыноўленыя, унукі, непрацаздольныя ўтрыманцы.

## ЦІ МЕЎ РАЦЫЮ ТАМЕРЛАН?

**Прыходзілася чуць, што напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны вяліся раскопкі саркафага Тамерлана. Кажуць, што пры раскопках была знойдзена нейкая запіска, у якой палкаводзец прадказваў пачатак вайны. Ці так гэта?**

**Андрэй РУЛЬКЕВІЧ,** *Мінскі раён*

Як нам удалося ўдакладніць, вядомы савецкі археолаг і антраполаг прафесар Герасімаў удзельнічаў ва ўскрыцці саркафага сярэднеазіяцкага палкаводца Тамерлана, каб даказаць сапраўднасць яго пахавання ў самаркандскім маўзалеі Гур-Эмір. Побач са шкілетам, які быў абгорнуты тканінай, ляжала таблічка: «Той, хто апаганіць мой прах, няхай ведае, што на яго краіну нападзе вораг, які ў многа разоў пераўзыходзіць мяне па сіле і лютасці, і радзіма яго будзе падвергнута такім бедам, якіх не ведалі нават пакароныя мной плямёны». Гэты факт час ад часу ўзгадвалі некаторыя выданні. Калі ж весці гутарку аб тым, калі быў ускрыты саркафаг, то ў некаторай ступені наконт прароцтва прыходзіцца задумацца: саркафаг быў ускрыты 21 чэрвеня 1941 года.

## БОГ — АМАТАР МАЛАКА?

***Не паспеў сціхнуць у Італіі шум, які паднялі вакол «Мадонны», якая плакала крывавымі слязьмі, як на вуснах у людзей з'явілася новая «сенсацыя» — індыйскі бог, які п'е малако. Аб чым ідзе размова?***

**Алег НІКІШЫН,** *Мінск*

Наколькі мы зразумелі, размова ідзе аб сотнях статуэтак індыйскага бога Ганеша, які магічным чынам паглынае малако праз адтуліну ў форме хобата слана. У свой час аб гэтым «феномене» пісаў альманах «Не можа быць». Дык вось, бажаство, якое суліць дабрабыт і багацце веруючым у яго, сапраўды мае хобат слана.

Усё тлумачыцца проста. Ва ўсіх статуэтак Ганеша (па меншай меры тых, што п'юць малако) ёсць адна асаблівая характарыстыка — матэрыял, з якога яны выраблены. Гэта порыстае рэчыва, якое лёгка адсарбіруе вадкасць. Калі да гэтай прыроднай уласцівасці дадаць эфект сіфона, які выклікаецца хобатам індыйскага бажаства, то «феномен» атрымае цалкам рацыянальнае тлумачэнне.

## ЁСЦЬ ТАКАЯ ТАБЛЕТКА

***Раскажыце, калі ласка, аб электронных таблетках.***

**Ціна ЖУКОВІЧ,** *г. Бяроза*

Аўтаномны электрастымулятар уяўляе сабой невялікую металічную капсулу, унутры якой знаходзіцца мікрапрацэсар і элемент сілкавання. Па назіраннях урачоў, нават аднаразовае ўжыванне АЭС дае выдатны лячэбны эфект пры гастрыце, хранічным халецыстыце, дыскенезіі жоўцевага пузыра, хранічным пакрэатыце, атанічным каліце, запорах, гемароі, хранічнай прастаце. Ачышчаючы кішэчнік ад таксічных шлакаў, АЭС аднаўляе гарманальны абмен арганізма, зніжае ўзровень халестэрыну ў крыві. Менавіта гэтым урачы тлумачаць паспяховае ўжыванне АЭС пры ішэмічнай хваробе сэрца, сардэчнай арытміі, пры станах хранічнай стомленасці і дэпрэсіі. Таблетка ў арганізме знаходзіцца ад паўтара да двух сутак. Звычайна ўжываць яе патрэбна адзін-два разы на год.

Больш жа падрабязную інфармацыю аб АЭС можна атрымаць у медыцынскім цэнтры «Надзея», які знаходзіцца ў Мінску па адрасу: вуліца Жудро, 40. Тэлефон цэнтра 55-06-02.

## ПРЫЧЫМ КРАСНУХА?

***Я зараз цяжарная. Калі была на прыёме ў свайго ўрача, ён раптам спытаў, ці хварэла я на краснуху.***

***Хацела ў яго спытаць, навошта гэта, аднак пасаромелася. Можа, «Звязда» падкажа, у чым справа.***

**Марына К.,** *Гомель*

Як патлумачылі нам у Міністэрстве аховы здароўя, галоўны сімптом гэтага захворвання — ружовая плямістая высыпка, якая з'яўляецца практычна на ўсёй паверхні скуры.

Краснуха, дарэчы, вострая інфекцыйная хвароба, якая перадаецца паветрана-крапельным шляхам. Найбольш часта хварэюць на яе дзеці.

Што датычыць дзяцей, то ў іх краснуха праходзіць параўнаўча лёгка. А вось у дарослых хвароба суправаджаецца высокай тэмпературай, моцным галаўным болем, значным павелічэннем лімфатычных вузлоў, болем у мышцах.

Можна зразумець і хваляванне вашага ўрача, калі той пытаўся аб тым, ці хварэлі вы на краснуху. Справа ў тым, што захворванне на краснуху ў першыя тры месяцы цяжарнасці прыводзіць да ўзнікнення розных парокаў развіцця плода: разумовай адсталасці, глухаты і інш. Таму жанчынам, якія не перахварэлі ў дзяцінстве на краснуху, да наступлення цяжарнасці неабходна вызначыць у крыві ўзровень антыцелаў да віруса краснухі. Дарэчы, узгадаем і той факт, што пры захворванні на краснуху ў першыя тры месяцы цяжарнасці паказана спыненне цяжарнасці.

## БЕЛАРУСКІ ІНТЭРПОЛ АКТЫЎНА ДЗЕЙНІЧАЕ

***Пытальнік ужо пісаў пра дзейнасць беларускага аддзялення Інтэрпола. Хацелася б больш падрабязна даведацца аб гэтай арганізацыі і супрацоўніцтве з ёй нашай рэспублікі.***

**А. АЛПАТАЎ,** *г. Барысаў.*

Міжнародная арганізацыя крымінальнай паліцыі — Інтэрпол, створана ў 1923 годзе, калі ў Вене пачала дзейнічаць Міжнародная камісія крымінальнай паліцыі. На сённяшні дзень Інтэрпол уключае ў сябе 174 дзяржавы. З краін СНД у гэту арганізацыю не ўваходзяць толькі тры: Туркменістан, Таджыкістан і Кіргізстан. Нагадаем, што Беларусь увайшла ў Інтэрпол у кастрычніку 1993 года. Дзейнасць Інтэрпола ў наш час накіравана супраць такіх небяспечных злачынстваў, як распаўсюджванне наркотыкаў, тэрарызм, падробка каштоўных папер і фальшываманецтва. Кіруючым органам Інтэрпола з'яўляецца Генеральная асамблея. Непасрэднай распрацоўкай і пастаноўкай тых або іншых задач займаюцца выбраныя асамблеяй выканаўчы камітэт і прэзідэнт. Штаб-кватэра сакратарыята знаходзіцца ў французскім горадзе Ліёне. У Беларусі з красавіка 1994 года дзейнічае Нацыянальнае цэнтральнае бюро, якое складаецца з трох аддзелаў. Улічваючы геаграфічнае становішча нашай рэспублікі, Генеральны сакратарыят Інтэрпола падключыў бясплатна НЦБ да электроннай сістэмы сувязі з банкам даных Інтэрпола (падключэнне каштуе 50 тысяч амерыканскіх долараў). За мінулы год Беларускім бюро Інтэрпола атрымана больш як 12 тысяч запытаў з 80 краін свету. Яго супрацоўнікі бралі ўдзел у затрыманні 21 злачынцы. Імі знойдзена 167 угнаных аўтамабіляў. Зараз вядзецца пошук фальшывых каштоўных папер нацыянальных банкаў Латвіі, Казахстана, Грузіі...

## МІЛЬЁН ДОЛАРАЎ ЗА ВАЎКОЎ?

**Газеты апошнім часам часта пішуць аб так званым «паляўнічым турызме» замежных грамадзян у лясных угоддзях Беларусі.**

**Праўда, нідзе не паведамлялася аб практычнай карысці такога палявання для нас. У мяне ж складваецца ўражанне, што гэта проста прыніжае нашу краіну...**

**Іван ЯЛЕНСКІ,** *г. Мінск.*

Наконт таго, што паляванне замежных грамадзян «прыніжае» нас, можна паспрачацца. Паляўнічым турызмам даўно ўжо займаюцца такія краіны як Іспанія, Канада, Ірландыя, Расія. Суседняя Польшча, напрыклад, прымае штогод 10—15 тысяч турыстаў-паляўнічых і зарабляе на іх паляванні да двух мільёнаў долараў. На жаль, колькі зарабіла Беларусь на гэтай справе, скажам, летась, нам так і не ўдалося высветліць. Вядома ж, даходы нашы тут больш сціплыя. Паляўнічы турызм у нас толькі становіцца на «прафесіянальныя» рэйкі. Едуць да нас паляўнічыя ў асноўным з Германіі, а таксама з Польшчы, Францыі. Найбольшую цікавасць для іх уяўляюць высакародныя алені (у Еўропе для ацэнкі іх каштоўнасці прымяняецца спецыяльная сістэма балаў), глушцы, дзікі-секачы, нават ваўкі, г. зн. жывёлы, якія больш нідзе ў Еўропе не сустракаюцца, або іх папуляцыі нязначныя. Спецыялісты выказваюць меркаванне, што паляўнічы турызм для Беларусі вельмі перспектыўны.

## ДЗЕ СЛУЖАЦЬ ЖАНЧЫНЫ-САЛДАТЫ?

***Неяк вы пісалі аб тым, як можна паступіць на службу ў беларускае войска жанчынам. Колькі іх зараз налічваецца ў нашай арміі?***

**Міхаіл КУЗНЯЦОЎ,** *г. Жодзіна*

Па апошніх звестках, амаль 4000 жанчын праходзяць зараз вайсковую службу ў беларускіх Узброеных Сілах.

Сярод іх 37 афіцэраў, 623 прапаршчыкі, 3310 салдат і сяржантаў. Пераважная большасць іх служыць у падраздзяленнях сувязі і медыцынскіх часцях.

**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА**

На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

*4 САКАВІКА — ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ МІЛІЦЫІ*

# НА ПАРАДКУ ДНЯ МУС БЕЛАРУСІ — КАДРЫ

**ПРАВЕДЗЕНЫЯ ў 1994-1995 гг. радыкальныя структурныя, арганізацыйна-штатныя і кадравыя змены не аказалі істотнага ўплыву на вынікі дзейнасці МУС. Павелічэнне штатнай колькасці, не падмацаванае адпаведным развіццём сістэмы падрыхтоўкі, адмоўна адбілася на якасных характарыстыках тых людзей, што прыйшлі за апошнюю «пяцігодку» ў органы ўнутраных спраў (такіх, дарэчы, 20 тысяч). За гэты ж час з міліцыі былі звольнены 19 тысяч супрацоўнікаў.**

Вельмі цяжкае становішча склалася з адпаведным замяшчэннем у службах, дзе патрэбны спецыялісты з юрыдычнай адукацыяй. Напрыклад, у крымінальным вышуку замена юрыстамі вышэйшай кваліфікацыі пагоршылася на 14 працэнтаў, сярэдняй — на 17. У следчых падраздзяленнях толькі 60 працэнтаў работнікаў з вышэйшай юрыдычнай адукацыяй. Асаблівую заклапочанасць выклікае сённяшні падбор участковых інспектараў, па дзеяннях якіх у насельніцтва і фарміруюцца думкі аб усёй міліцыі: толькі 9,5 працэнта з іх — спецыялісты-юрысты.

Не забяспечваюць патрэбы МУС у кваліфікаваных юрыстах і выпускнікі навучальных установ ведамства. За апошнія 5 гадоў органы міліцыі папоўніліся ўсяго 2 тысячамі курсантаў, што склала 16 працэнтаў ад прынятых на афіцэрскія пасады.

На жаль, былых студэнтаў грамадзянскіх вышэйшых навучальных установ у праваахоўных органах таксама вельмі мала: з 1990 г. па 1995 г. сюды быў атэставаны 221 чалавек. Няўжо падобны факт сведчыць аб невысокім прэстыжы міліцэйскай службы?

На змяншэнне колькасці супрацоўнікаў з юрыдычнай адукацыяй паўплывалі і своеасаблівыя «хвалі» масавых звальненняў, звязаныя з распаўсюджваннем чутак аб пагаршэнні ўмоў праходжання службы і пенсіённага забеспячэння. Адукаваныя здаровыя афіцэры ва ўзросце 38—43 гадоў з дастатковым вопытам практычнай работы, не маючы ўпэўненасці ў сваёй сацыяльнай абароненасці, зрабілі-такі выбар на карысць хоць і невялікай, але гарантаванай пенсіі.

Не малую ролю ў пагаршэнні якасці замяшчэння адыграў і парадак камплектавання таго ж Галоўнага ўпраўлення падатковых расследаванняў за кошт кваліфікаваных работнікаў МУС. За апошнія 3 гады да падатковай інспекцыі было прыкамандзіравана 400 падрыхтаваных і адукаваных прафесіяналаў.

Зараз адным з рэзерваў якаснага замяшчэння ў органах унутраных спраў з'яўляюцца супрацоўнікі, што навучаюцца на завочных аддзяленнях розных навучальных установ. У ВНУ за партамі сядзяць 2700 чалавек, у сярэдніх спецыяльных установах — 830.

Па стану на студзень 1996 г. 31 працэнт міліцыянераў былі маладзей за 25 гадоў, 45-гадовы рубеж перасягнулі толькі 3 працэнты. Што яшчэ? Па тэрмінах службы 44 працэнты асабовага саставу праслужылі менш як 3 гады, кожны пяты — меней як 1 год, усяго 4 працэнты — больш як 20 гадоў.

Паўтараем, што ўсё гэта, безумоўна, адбіваецца на выніках аператыўна-службовай дзейнасці. Таму летась праводзілася карпатлівая работа па ўмацаванню органаў унутраных спраў, паляпшэнню сістэмы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі асабовага саставу, павышэнню прафесіяналізму, у тым ліку службовай этыкі. Спярша намаганні накіроўваліся на прывядзенне штатнай колькасці ў адпаведнасць з рэальнымі патрэбамі. Умацаваны падраздзяленні следства, ДАІ, экспертна-крыміналістычныя, а таксама іншыя органы, што працуюць у складаных умовах.



Як ужо гаварылася, значная частка паступіўшых на службу не мае спецыяльнай юрыдычнай адукацыі, а таму прыярытэтнай задачай застаецца менавіта падрыхтоўка, перападрыхтоўка і павышэнне кваліфікацыі кадраў. Летась на ўсе формы навучання ў навучальныя ўстановы МУС прынялі 1,4 тысячы чалавек (больш за палову — на дзённыя аддзяленні), на базе ВНУ міністэрства прайшлі перападрыхтоўку і павышэнне кваліфікацыі 1,2 тысячы супрацоўнікаў, у вучэбных цэнтрах навучаліся 3,7 тысячы.

МУС паступова працуе над ачышчэннем сваіх шэрагаў ад людзей, чые паводзіны кампраметуюць усю сістэму праваахоўных органаў. Так, у 1995 г. па розных прычынах былі звольнены больш як 1 тысяча супрацоўнікаў міліцыі. Аналіз парушэнняў паказвае, што амаль 90 працэнтаў з іх звязаны з адступленнем ад нормаў крымінальна-працэсуальнага заканадаўства, утойваннем злачынстваў ад уліку і фальсіфікацыяй матэрыялаў праверак.

І ўсё ж пераважная большасць міліцыянераў і ваеннаслужачых УВ з годнасцю выконвае свой службовы і вайсковы абавязак, часта рызыкуючы здароўем і жыццём. Колькасць злосных непадпарадкаванняў законным патрабаванням работнікаў МУС павялічылася на 15 працэнтаў, зарэгістраваны 21 выпадак замаху на іх жыццё. Падчас выканання абавязку летась загінулі 7 чалавек у пагонах і 48 атрымалі раненні. У якасці мераў самаабароны 63 разы міліцыянеры прымянялі зброю.

Між тым, пытанні сацыяльнай і прававой абароненасці асабовага саставу не страцілі актуальнасці. Праблемы жыллёва-бытавога ўладкавання і адсутнасць рэальных перспектыў на атрыманне кватэры стымулююць адток найбольш кваліфікаваных кадраў з вядучых службаў у іншыя галіны і структуры.

Павышэнню эфектыўнасці барацьбы з проціпраўнымі з'явамі могуць паспрыяць укараненне ў практыку лепшых сусветных узораў прафесійнай пастаноўкі працы, наладжванне ўсебаковага ўзаемадзеяння паміж адпаведнымі падраздзяленнямі, больш шырокая апора на магчымасці насельніцтва краіны, развіццё формаў галоснасці. Адна з умоў станоўчых змен — забеспячэнне глыбокага даверу народа да сваёй міліцыі. Трэба дамагчыся, каб у службу аховы правапарадку ўліліся новыя, па-сапраўднаму прыстойныя, смелыя, адукаваныя людзі.

**Пётр РАБКАВЕЦ,**
**прэс-цэнтр МУС.**

# БЫЦЬ «ЗЯЛЁНАЙ» ВУЛІЦЫ МІЖ ДЗЯРЖАВАМІ

***ЗА ГОД ІСНАВАННЯ ўчасткі дарожнай міліцыі даказалі сваю эфектыўнасць і неабходнасць. Барысаўскі ўчастак знаходзіцца на галоўнай аўтамагістралі Беларусі, якая звязвае Расію з Еўропай і ў нас вядома як Брэст—Масква. Толькі сур'ёзных злачынстваў па лініі крымінальнага вышуку на тэрыторыі, якую кантралюе барысаўская міліцыя, за мінулы год зарэгістравана адзінаццаць. Дзесяць з іх ужо раскрыты. Якая зараз рэальная карціна на дарозе? Мой суразмоўца — начальнік участка дарожнай міліцыі Барысаўскага раённага аддзела ўнутраных спраў Анатоль МІСКОВІЧ.***

— Аўтастрада Брэст—Масква заўсёды была папулярнай. Тым больш у апошнія гады, калі да машын грузаперавозак розных краін далучылася вялікая колькасць легкавога транзітнага аўтатранспарту. З'яўленне злачынных груповак, што займаюцца рабаваннем грамадзян на дарозе, падштурхнула праваахоўныя органы да стварэння ўчасткаў дарожнай міліцыі. Грабежнікі спыняюць часцей за ўсё легкавы аўтатранспарт «перагоншчыкаў» і грамадзян замежных рэспублік і краін. Прыціскаюць да абочыны адной-дзвюма машынамі альбо пагражаюць зброяй.

Пазбегнуць непажаданай сустрэчы могуць толькі ўладальнікі больш хуткай машыны. Тыя, каго злачынцы спынілі, вымушаны заплаціць «пошліну» за праезд па «ўласнай» тэрыторыі валютай, нацыянальнымі грашыма ці каштоўнымі рэчамі. А каб ахвяра своечасова не паведаміла аб гэтым на пост міліцыі альбо патрульнаму нараду на дарозе, яе могуць звязаць, збіць альбо сапсаваць аўтамабіль. Апошнім жа часам выдаюць запіскі, якія быццам бы забяспечаць «бяспошлінны» рух да «чужой» тэрыторыі. Аднак гэта не так, бо групоўкі, паўтараю, ствараюцца спантанна і сувязей паміж сабой не падтрымліваюць. Затрымка ж паступлення нам сігналу аб нападзе стварае пэўныя цяжкасці для выяўлення злачынцаў і іх затрымання.

**— І ўсё ж, Анатоль Віктаравіч, эфектыўнасць дзейнасці патрульнай службы відавочная. Раскажыце пра апошні выпадак на дарозе...**

Група з трох чалавек на іншамарцы прыціскала да абочыны легкавую атамашыну расійскага грамадзяніна, які накіроўваўся на радзіму з Польшчы. Калі вадзіцель не спыніўся, злачынцы стрэлілі па ім з абрэза. Куля прайшла ў сантыметры ад галавы ахвяры нападу, а хуткая машына дапамагла пазбегнуць расправы. Своечасова атрымаўшы інфармацыю, камандзір узвода патрульнай службы Гаўрыловіч і інспектар Мацура праз пяць хвілін выявілі месцазнаходжанне злачынцаў. Але паколькі патрульны «Масквіч» па скорасці не можа цягацца з іншаркай, інфармацыю перадалі ў гарадскі і раённы аддзелы ўнутраных спраў Барысава. Выстаўленыя пасты і затрымалі ў горадзе машыну са злачынцамі.

**— Якіх правілаў трэба прытрымлівацца грамадзянам, каб пазбегнуць сустрэчы з рабаўнікамі?**

— Трэба старацца менш рухацца ноччу, таму што асноўная частка злачынстваў на дарозе адбываецца ў цёмны час сутак. Пры няспраўнасці аўтамабіля старайцеся дабрацца да стаянкі, якіх у мэтах бяспекі грамадзян на дарогах зроблена шмат, альбо выклікайце міліцыю любым спосабам. Своечасова папярэджвайце праваахоўныя органы аб нападзе на вас ці іншых грамадзян. Толькі ў такіх выпадках можна чакаць хуткіх і выніковых дзеянняў міліцыі.

**Алесь ГЕРАСІМАЎ.**
**Прэс-цэнтр МУС Беларусі.**

# ПАЎТАРЫЦЬ СЯБЕ Ў ВУЧНЯХ...

## СЁННЯ Ў МІНСКУ ПАЧНЕЦЦА ДРУГІ МІЖНАРОДНЫ ТУРНІР ПА ФЕХТАВАННЮ, ПРЫСВЕЧАНЫ ПАМЯЦІ ЗАСЛУЖАНАГА ТРЭНЕРА СССР ГЕРМАНА БОКУНА

**Імя гэтага чалавека ў прамым сэнсе слова ўпісана залатымі літарамі ў летапіс сусветнага спорту. Герман Бокун быў першапраходцам у такім цікавым, мужным і захапляючым відзе спорту, як фехтаванне. Спачатку быў першапраходцам як спартсмен, а потым — як трэнер, які выхаваў і вывеў у вялікі спорт не адно пакаленне мушкецёраў.**

...1952 год. XV Алімпійскія гульні ў Хельсінкі. Упершыню ў гісторыі сусветнага спорту ў вышэйшым спартыўным форуме прымала ўдзел зборная каманда Савецкага Саюза. У саставе шматнацыянальнай зборнай — сем прадстаўнікоў Беларусі: лёгкаатлеты Міхаіл Крываносаў, Цімафей Лунёў, Анатоль Юлін, Міхаіл Салтыкоў, вясляр Стэфан Міхайлаў, фехтавальшчыкі Юрый Дэксбах і ён — Герман Бокун.

Гэта потым, праз гады, нашы спартсмены пачалі змагацца на Гульнях за медалі. А тады яны, першапраходцы-адкрывальнікі, вучыліся майстэрству перамагаць. Бліжэй за астатніх у беларусаў быў да ўзнагароды бар'ерыст Анатоль Юлін, але заняў «толькі» чацвёртае месца.

Затое іх вучні пераўзышлі пасля настаўнікаў.

Арнольд Чарнушэвіч і Аляксандр Паўлоўскі — першыя і, несумненна, самыя «дарагія» вучні Германа Мацвеевіча Бокуна — ужо на XVII Алімпіядзе ў Італіі заваявалі бронзавыя медалі. А Таня Пятрэнка (Самусенка) пайшла, што называецца, яшчэ далей: узнялася на алімпійскі п'едэстал за залатой узнагародай у саставе каманды рапірыстак Савецкага Саюза. Гэта, як пакажа час, быў толькі пачатак яе трыумфальнага шэсця па слізкіх (у прамым і пераносным сэнсе слова) алімпійскіх фехтавальных сцяжынках: Таццяна атрымае потым яшчэ дзве ўзнагароды вышэйшай пробы і адной з першых стане ў нас трохразовай алімпійскай чэмпіёнкай.

Менавіта дзякуючы яму, Герману Бокуну, іншым яго калегам па трэнерскай працы беларуская фехтавальная школа амаль што тры дзесяцігоддзі будзе літаральна ўладарыць на міжнароднай арэне. Згаданая ўжо Таццяна Самусенка, а таксама чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка Алена Бялова, сярэбраныя прызёры Алімпіяды шпажысты Аляксей Нікančыкаў і Юрый Смалякоў, шаблісты — двухразовы чэмпіён Алімпіяд Віктар Сідзяк і алімпійскі чэмпіён Мікалай Алёхін, пяціразовы пераможца сусветных першынстваў і чэмпіён Алімпійскіх гульняў рапірыст Аляксандр Раманькоў — цэлае сузор'е сапраўдных герояў спорту дасць наша рэспубліка. Побач з ім вырастуць і загартуюцца як спецыялісты фехтавання жонка Германа Мацвеевіча — Ларыса Пятроўна Бокун, а таксама Аляксандр Фель, Эрнест Асіеўскі, Дзіяна Нікančыкава, Сяргей Прыходзька і іншыя.

...Ён быў прыгожым душой і сэрцам, сціплым і абаяльным чалавекам, спецыялістам, сябрам. Прыглушаны, сіплаваты голас Германа Мацвеевіча заўсёды прыцягваў да сябе, прымушаў уступіць у спрэчку. Высокі пост намесніка старшыні Камітэта па фізічнай культуры і спорту Беларусі ніколькі не ўзвышаў яго над іншымі — калегамі, спартсменамі, журналістамі. З Бокунам, як казалі тады, можна было гаварыць і дамаўляцца...

Некалькі гадоў назад няўмольная смерць вырвала яго з жыцця. Але, як гэта і здараецца з людзьмі, шчодрымі душой і сэрцам, засталіся і працягваюць яго справу вучні, таварышы, дарадчыкі. А ў мінулым годзе ў Мінску прайшоў першы міжнародны турнір памяці Германа Бокуна. Ён меў незвычайны поспех, адразу ж быў заўважаны і ацэнены. Яшчэ б: імёны і справы такіх людзей не забываюцца.

Сёлетні турнір зноў арганізавала адна з самых знакамітых вучаніц Германа Мацвеевіча — Таццяна Дзмітрыеўна Самусенка. Удзел у спаборніцтвах прымуць мацнейшыя фехтавальшчыкі такіх «спартыўных» дзяржаў свету, як Германія, Украіна, Польшча, Румынія, Латвія, Літва, Эстонія... Натуральна, выйдуць на фехтавальныя сцяжынкі і беларускія майстры клінка — прадстаўнікі новай хвалі бокунаўскай школы.

Учора вечарам у мінскім Палацы спорту, дзе пройдзе турнір, адбылася прэс-канферэнцыя для журналістаў. А сёння і заўтра спартсмены правядуць паядынкі за прызы імя Германа Мацвеевіча Бокуна. У Палацы спорту, несумненна, будзе па-спартыўнаму горача...

**Анатоль ПАМОРСКІ.**

«Салют, Ірына! Прывітанне, Вялянкова!..»

Яркія подпісы і забаўныя малюнкі на вялікім, на паўсцяны, плакаце. Ён адразу кідаецца ў вочы на светлым фоне палаты. Плакат, кветкі, каляровыя сцяжкі з тэніснага турніру — усё гэта ўпрыгожвае абстаноўку дзякуючы добрым Ірыніным сябрам.

Прынамсі, самае яркае, што тут ёсць, — яна сама. Наша зямлячка, альпіністка нумар адзін Беларусі і адна з першых у Еўропе. Гонар краіны.

З 31-га кастрычніка мінулага года яна знаходзіцца тут, у Маскве, у інстытуце хуткай дапамогі імя Скліфасоўскага.

**Першы раз мы сустрэліся ў сярэдзіне лета, калі пытанне аб удзеле беларускіх альпіністаў у міжнароднай экспедыцыі на вяршыні — «васьмітысячнікі» Анапурна і Дхаўлагіры ў паўночна-заходніх Гімалаях толькі вырашалася.**

**Праз месяц Ірына ўжо была ў Катманду, сталіцы Непала.**

**Яшчэ праз два месяцы ў Мінск прыляцелі сумныя весткі.**

**З таго часу чуткі аб хуткім прыездзе Ірыны дадому то заціхалі, то ўспыхвалі зноў, даючы надзею яе родным, сябрам і добрым знаёмым. Але час няўмольна бег ужо да сярэдзіны лютага, а яна ўсё не прыязджала. І вось гонар Беларусі сядзіць насупраць. Такая, як заўсёды, прыветная, у прыгожым спартыўным касцюме. Толькі забінтаваныя ногі. А так — нібыта ўсё, як раней...**

Калі я спытаю, што яна хацела б перадаць землякам на Беларусь, «карыстаючыся выпадкам», Ірына адкажа:

— Зараз я проста ўсіх люблю! І вельмі хачу вярнуцца ў Мінск. Але я паставіла сабе мэту...

* * *

Мэты Ірына ставіць усё жыццё. Усё пачынаецца з іх, потым ідзе ўпартая праца на шляху да намечанага. Шлях заўсёды няпросты: крок за крокам, прымушаючы сябе, перамагаючы інертнасць... Па-іншаму яна, напэўна, жыць не ўмее. Не адразу я даведалася, што нават частку грошай, патрэбных для ўдзелу ў экспедыцыі, Ірына зарабіла сама («Проста складвала ўсе свае зарплаты...» — Вядома, гэта было не так «проста»!). Напэўна, магу толькі паспрабаваць адчуць і зразумець тую сілу, якая апошнія 16 гадоў цягнула яе ў горы. І такіх жа, як яна, дзіўных людзей, якія жывуць побач з намі, але ў нейкім сваім, асаблівым свеце.

— Ірына, зараз прайшло столькі часу, ты перажыла шмат, перанесла складаную аперацыю. Як ты сёння ацэньваеш тое, што адбылося?

— Самае горшае — не тое, што так адбылося. Галоўнае, чаму менавіта так... Я хачу сказаць, што ніхто не вінаваты. Гэта быў проста трагічны збег абставінаў.

**...Ад узыходжання на Анапурну давялося адмовіцца. Пытанне адпала само па сабе, калі ўбачылі састаў балгарскай часткі экспедыцыі (балгары і беларусы працавалі разам). Ён быў абсалютна неспартыўным! Ірыне думалася, што станоўчую ролю адыграла б узаемадзеянне з грузінскімі спартсменамі, якія былі побач, і спадзявалася, што ў нейкі момант на шляху ход экспедыцый «супадзе па фазе». Але яе імкненні некуды бегчы, ляцець амаль ніхто не падзяляў: час ёсць, няма куды асабліва спяшацца. Гадзіны і дні наслойваліся...**

— ...Я адчуваю сябе добра, і майму нейкаму радаснаму самаадчуванню вельмі дапамагаюць мае сябры. Яны прыходзяць пастаянна, мы весела з імі праводзім час, і тады адсоўваецца некуды той факт, што я згубіла пэўныя часткі на сваіх нагах. Гэта людзі розных пакаленняў як у спорце, так і па ўзросту. Прыходзілі да мяне і спартсмены, якія страцілі пальцы на нагах, некаторыя — на руках. Яны працягваюць жыць нармальным жыццём, займацца любімым захапленнем — гарамі. Вядома, у асноўным гэта мужчыны. Хлопцы заўсёды больш рызыкуюць. У жанчын, як правіла, ці рызыка мінімальная, ці, калі нешта здараецца, чалавека няма ў жывых... Не сказаць, што траўма —гэта нармальная сітуацыя, але ж такое не раз здаралася ў спартыўным свеце.

— Летам ты гаварыла, што горы для цябе — як жывыя істоты. Што ты іх любіш, адчуваеш, у кожнай свая душа...

— Так!

— Гэта пачуццё засталося?

— Так, вядома, засталося! Менавіта таму я не адчувала, чаму я павінна была прынесці такую ахвяру Дхаўлагіры. Я ведаю, што гэтага не павінна было быць!

Праўда, я паплацілася яшчэ лёгка. Магла б проста загінуць...

У мяне зараз няма катэгарычнага адказу: так, я не мела рацыі, не трэба было рабіць менавіта гэтак. Шмат разоў ставіла сябе на тое ж месца, у той момант часу, але аднойчы зразумела: гэта было тады, пры тых маіх думках, тым самаадчуванні...

**На вышыні, пры нагрузках, не заўсёды можна адразу «схапіць» усе дэталі. Але, гаворачы аб сваіх праліках сёння, праз тры месяцы, Ірына лічыць: «Сітуацыя не была экстрэмальнай, я рэальна ацэньвала яе. У пазамінулым годзе, калі мы ішлі на Канчанджангу, адназначна нармальнаму чалавеку трэба было спускацца ўніз — што я і зрабіла. На Дхаўлагіры ўсё было рэальна! Тое, што адбылося за апошнія некалькі гадзін ці хвілін, — не па маёй віне...»**

**З самага пачатку яна не хацела ісці на вяршыню адна (як кажуць альпіністы, «сола»). Думала, што ўзыдзе разам з Эдуардам Ліпенем. Вельмі разлічвала на яго, вопытнага спартсмена, з якім не раз былі ў экспедыцыях. Але... «Эдзік схапіў страшэнную ангіну, і ўжо тое, што сам спусціўся ўніз, не стварыў праблем для іншых — подзвіг». Усе мы, як кажуць, пад Богам ходзім, але, магчыма, Ірына ўсё ж крыху пераацаніла сілы тых, хто знаходзіўся з ёй побач?**

Памятаю, летам яна сказала: «Там мы трымаем у руках жыцці адзін аднаго». І я ўяўляла сабе альпініцкае братэрства, народжанае ў барацьбе з агульнымі цяжкасцямі...

— Пераацаніла? Відаць, проста трэба было больш разлічваць на адну сябе!

* * *

**...З апошняга лагера на вышыні 7400 метраў Аляксандр Шынкарэнка з Барысава і балгарын Барыслаў Дзімітраў выйшлі пазней, чым гэта меркавалася. Усю ноч дзьмуў моцны вецер, палатка нагадвала панцыр, кавалкі лёду час ад часу сыпаліся ўніз. Хлопцы збіраліся ўсю ноч (на вышыні гэта справа вельмі марудная), тапілі снег... Рушылі а палове сёмай. Ірына, якая не магла заснуць, лежачы ўкрытая з тварам спальнікам, убачыла, устаўшы, што Боб з Сашам натапілі снегу і для яе, затое «кошкі» заваліла снежным абвалам. Сабраўшыся хутка, ужо праз гадзіну, спусцілася да палатак грузінскіх спартсменаў. Выручылі: «кошкі» сядзелі як улітыя. Грузіны прасілі не рызыкаваць: «Ты ў нас адна, а горы стаялі і стаяць будуць!» — «Усё нармальна, вы ж на вяршыню ўзышлі — значыць, і нам трэба!»**





**Вярнулася ў лагер. Доктар, як называе яна Ліпеня, нягледзячы на хваробу, збіраўся крыху пазней пайсці ўслед за ёй. Здаецца, тады Ірына зразумела: Эдзік ужо нікуды не ўзыдзе. Але ніколі не кіне яе адну.**

**«Там нехта выйшаў, — сказаў Эдзік, — ты будзеш не адна. Ліхтар не бяры: я вазьму сам, а табе толькі лішняя вага».**

**Выходзячы, Ірына зірнула на гадзіннік. Палова дзевятай раніцы.**

**Хутка яна дагнала галандца...**

— Тут, па-мойму, я праявіла спартыўную блізарукасць — зусім не па-свайму майстэрству!

Для чалавека, які 16 гадоў займаецца альпінізмам, — такі бязлітасны самапрысуд?!

Але Ірына не шукае іншых вінаватых.

**...Схіл гары перад вяршыняй крыху вышэй трэцяга лагера быў правешаны вяроўкамі. Ірына і яе спадарожнік Бат ведалі: хутка вяроўкі скончацца, і застанецца «пуцяводная нітка» слядоў, пакінутых васьмю прайшоўшымі тут раней экспедыцыямі. Сляды спрасаваныя, снег на іх не растае пад сонцам, не выдуваецца ветрам. «Гэта складаны схіл, нельга рабіць памылкі, трэба надзейна ісці», — Ірына і Бат перагаворваліся па-англійску. «Схіл як схіл, — мільганула ў яе думка, — працуеш сабе — і ўсё...» Галоўнае было — не згубіць гэтыя сляды дзе-небудзь вышэй. Хаця... Яна не адразу зразумела, чаму ёй некалькі разоў хацелася перагнаць Бата, які ішоў першым. Затое разумее галоўнае, з-за чаго гэтага не зрабіла.**

**Бо жанчына наперадзе — гэта мужчын заўсёды раздражняе. Якой бы падрыхтаванай яна ні была...**

— Я заўважыла гэта, калі хадзіла з нашымі хлопцамі. Я пабаялася пакрыўдзіць Бата просьбаю ўступіць дарогу мне. Ён ішоў павольна, але гэта быў яго нармальны тэмп. Мне было так ісці камфортна. А трэба было сябе прымушаць працаваць хутчэй! Ужо адна я пайшла так, як павінна была ісці з самага пачатку.

Дарэчы, цікавая дэталь для чалавека недасведчанага: нармальнай, сярэдняй, не звышхуткай на вышыні больш за сем тысяч лічыцца хуткасць каля 150 метраў у гадзіну — натуральна, у вымярэнні па вертыкалі.

Пазней, палічыўшы адлегласць і час, Ірына зразумее, што ішла нават хутчэй: каля 160 метраў. Потым паўтары гадзіны, згубленыя разам з Батам, не хопіць на спуск.

Але гэта — пазней.

* * *

**...Ірына была практычна зусім не стомленая, калі сустрэла Боба і Сашу Шынкарэнку. Гэта было недзе на вышыні 7900. Павіншавала: хлопцы спускаліся з вяршыні! Свяціла сонца, лёгкімі парывамі налятаў вецер, мароз не адчуваўся. Ідэальнае надвор'е для ўзыходжання. Нармальны стан арганізма.**

**І тут яна даведалася, колькі часу... Палова чацвёртай!**

**На секунду Ірына аслупянела.**

— Гэта здалося нерэальным. Зараз магло быць недзе каля двух—паловы трэцяй. Але не гэтая палова чацвёртай! Вось тады я зразумела, колькі часу страчана...

**«Ірына, па-мойму, табе не трэба ісці далей, — сказаў Барыслаў. — Спускайся разам з намі. Яна прыкінула: без дваццаці сем будзе ўжо чарната, цемра. «Колькі яшчэ падымацца адсюль?» — «Мінімум дзве гадзіны». Светлавога часу — «упрытык», але калі не збаўляць тэмп, можна будзе паспець напалову спусціцца. Тым больш — ідзе Доктар з ліхтаром, у нейкай кропцы на спуску яны павінны сустрэцца. Яна сказала аб гэтым хлопцам: «Хіба мы ўдваіх не спусцімся?». Галоўнае — да вяровак, далей ужо збіцца са шляху нельга, бо вяроўкі вядуць проста ў лагер.**

— Я ўсё думала: каб трапіць зноў у тую сітуацыю, пайшла б я на вяршыню ці не? Спачатку не было адназначнага адказу. Але, напэўна, пайшла б...

Яна тады сапраўды верыла, што яе не пакінуць!

* * *

Весткі, якія дайшлі яшчэ ў лістападзе, мелі крыху дзіўныя, як я разумею сёння, дэталі. Напрыклад, казалі мне, Ірына ўсю ноч секла лёд ледарубам — каб не замерзнуць. Ёй не ўдалося дабрацца да вяршыні, яна ўзышла толькі на перадвяршынны грэбень, на вышыню больш за 8 тысяч (уся Дхаўлагіры — 8167).

Згодна з правіламі альпініцкага спорту, пры такім раскладзе вынік не залічваецца як узыходжанне.

На самай справе было не так.

**...Пад нагамі быў фірн — прамежкавы стан паміж снегам і лёдам. Спускацца ці не? Кожны наступны крок мог стаць апошнім. Ступаеш — і вялізныя лінзы-пласціны, сколваючыся пад нагамі, ляцяць у чорную бездань. Аднойчы Ірына адчула яе, бездані, блізкасць: вырваўшы ледаруб, які па самую рукаятку ўбівала на кожным кроку, ледзь не паляцела сама...**

**Каб не замерзнуць, альпініст можа выкапаць пячору (асабліва, калі ён без палаткі і спальнага мяшка). Але ў поўнай цемры, на вузкім «пятачку» на вышыні зрабіць гэта было немагчыма.**

**Мароз узмацніўся, ён быў ужо каля трыццаці—трыццаці пяці. Узняўся вецер...**

**Ірына чакала месяца. Безвынікова! Стала зваць людзей... Доктар! Ён павінен быць недалёка! Але доктар быў у лагеры, хлопцы, якіх яна сустрэла, — таксама.**

**Спачатку Ірына думала, што яе голас проста не даносіць вецер. Думкі, што яе ўжо «пахавалі», яшчэ не было. Аб гэтым яна даведаецца потым.**

**Яна старалася займаць сябе думкамі. Размаўляла з Доктарам, з іншымі ўдзельнікамі экспедыцыі. З роднымі, якія былі зараз так далёка. З Богам. («У гарах ты становішся бліжэй да Бога», — гэтыя яе словы, помніцца, я ўжо цытавала летам.)**

**На Дхаўлагіры Бог быў блізка-блізка...**

— Я верыла, што ўвогуле не абмарожуся, што нармальна спушчуся. Спрабавала толькі ўявіць сабе, што думаюць зараз у лагеры: дзе я?

**Расчысціўшы снег ботамі з «кошкамі», пашырыла ўчастак на скале. Цяпер можна было часам пасядзець, каб хоць трохі адпачылі ногі. І трэба было рухацца, каб не загінуць! Ногі — з наска на пятку, з наска на пятку... Так! Цяпер — прысяданні, хоць не да канца — усяго яна ўжо не помніць.**

**Так прайшло каля 12 гадзін.**

— Мой выпадак карысны тым, што пашырае ўяўленне аб магчымасцях чалавека, — гаворыць зараз Ірына.

Ніякі лёд яна не секла. І на вяршыні — была!

Гэтаму, праўда, зараз няма «рэчавых доказаў». Фотаапарат, адзнятыя плёнкі — усё гэта знаходзілася ў яе рукзаку. Але калі яе зносілі ўніз, а штурмавы лагер ліквідавалі, доказы тыя «ліквідаваліся» як бы самі па сабе.

**Іх проста забылі (ці — не здолелі?) узяць з сабой. Ірынін рыштунак і астатнія рэчы засталіся на схіле Дхаўлагіры навекі. Гэта было ўжо пасля таго, як, коўзаючыся, некалькі разоў губляючы сляды і яшчэ больш халадзеючы ад думкі, што вось-вось заблудзіць, яна спускалася ўніз. Тады нехта з лагера ўбачыў на схіле цёмную кропку.**

**Кропка рухалася!**

**Ірына «ўваскрэсла».**

**«Значыць, усё нармальна. Спусціцца сама», — вырашылі ўнізе, на 7400...**

**Было 13 кастрычніка 1995 года.**

* * *

— Ірына, мне цяжка зразумець гэта: ты не вярнулася, а цябе ніхто не шукаў?!

— Я не маю прэтэнзій з-за гэтага. Разумееш, на вышыні ўсё па-іншаму. Бо гэта — вышыня! Гэта холад, гэта ноч... Трэба мець вялікую мужнасць, каб выйсці ў цемру, у невядомасць...

Тым больш — чалавек не вяртаецца на ноч! Ды яшчэ жанчына. У такіх выпадках чалавека часцей за ўсё ўжо няма ў жывых. Часцей за ўсё — ён проста сарваўся, «паляцеў».

Доктар адчуваў сябе кепска, ён пачынаў задыхацца. Саша Шынкарэнка яшчэ зямляк, здаецца, на яго можна больш спадзявацца — але ён толькі што спусціўся і быў вельмі стомлены. Чалавек можа тады проста не дайсці... І ён быў абмарожаны, яму ўцiралі мазі...

— Ірына! Чаму табе гэтыя мазі не ўціралі? Ты паступіла сюды (інстытут імя Скліфасоўскага) на 19-ты дзень! Урачы лічаць, што можна было нешта прадухіліць яшчэ ў першыя дні.

— А там рабіць гэтага проста не было каму! Усім трэба было хутчэй сходзіць уніз: лішні час на такой вышыні адбіваецца адмоўна. Знізу па рацыі перадалі: хутчэй спускацца! Там мяне ўжо чакалі...

Але ўсё гэта рабілі з рукамі, яны таксама былі «прыхваченыя». А тады здымаць усё з ног, рабіць нейкія расціранні?!.. Ногі былі замарожаныя, ступні не гнуліся, але тады я яшчэ магла ісці, і былі сілы.

Не адразу Ірына адчула, што двое сутак правяла без сну, ежы і амаль без вады.

Уніз яе знясе спецыяльна наняты шэрп. Калегі-таварышы будуць, як змогуць, лячыць яе ў паходных умовах...

* * *

Захапленне і гонар. Гэтыя два пачуцці сёння адчуваюць урачы апёкавага цэнтра, якія бачаць Ірыну кожны дзень: «Яна так добра выглядае, нібыта і не на бальнічным ложку. У яе заўсёды добры настрой. Мы ганарымся ёю...»

— Мне дапамагаюць жыць мае планы на будучыню. Я стаўлю сабе мэту: аднавіцца за год. Вельмі хачу прыехаць дамоў у Мінск, але зраблю гэта тады, калі змагу сама прыйсці ад вакзала да дома. Пастараюся, каб тое, што здарылася, не вельмі азмрочыла маё жыццё, жыццё маіх блізкіх, якія вельмі перажываюць. Я веру, што змагу зноў займацца спортам. Калі не змагу жыць так, як прывыкла, — гэта будзе вялікім выпрабаваннем.

**На аперацыі было задзейнічана да васьмі ўрачоў, прысутнічалі ўсе вядучыя спецыялісты цэнтра.**

**Зараз прыжыўляюцца перасаджаныя тканкі, ідзе цяжкі перыяд аднаўлення. І не толькі фізічнага.**

**Медыкі здзіўлены: пацыентка, якой ганарацца як унікальным выпадкам у спорце (сярод жанчын у свеце такога сапраўды не было!), у вельмі сціслы тэрмін пасля аперацыі пачала хадзіць. Практычна навучылася наноў.**

**Ёй зараз вельмі цяжка, але Ірына перакананая: яе мэта — вярнуцца да ранейшага жыцця як мага хутчэй, аднавіцца за год — цалкам дасягальная. Паступова — не для яе. Баяцца болю, чакаць гадамі — не трэба.**

**Я веру: яна яшчэ ступіць на новыя вяршыні!**

Зрэшты, яна і цяпер на вяршыне — чалавечай. А Беларусь не раз падавалася мне краінай зайздрасці. Не ведаю, чаму...

Між іншым, праз год беларускія хлопцы збіраюцца не куды-небудзь, а на Эверэст.

«...Я ўсіх люблю. Я вельмі хачу вярнуцца». Вярнуцца Ірына пакуль не можа.

Я гавару, што буду ў Мінску заўтра, — з якой нецярплівасцю там чакаюць вестак ад яе!

Ірына шчасліва ўсміхаецца і перадае... падарункі!

Аказваецца, заўтра — дзень святога Валянціна...

**Таццяна СНІТКО.**

*Мінск—Масква—Мінск.*

# Жыццё з палаткі на «Дынама»: погляд у люстэрка

**Выпадкова сустрэўшы Мішу ў чарговы раз, адмаўляцца зноў ад даўно запланаванай, але ўсё ніяк па розных прычынах не здзейсненай да гэтага часу маёй вандроўкі на сталічны стадыён «Дынама» ў якасці прадаўца, дзе знаёмы гандляваў рэчамі, было ўжо няёмка. Таму вырашылі па дзелавому хутка: мой працоўны дзень на гарадскім «цэнтры моды» крыху ў іншай ад звычайнага занятку якасці адбудзецца праз два дні нягледзячы на надвор'е. Тэрмінова змяніўшы свой рабочы графік і атрымаўшы папярэдне дазвол, а таксама параду галоўнага рэдактара «не трапіць у міліцыю», раніцай прызначанага дня я, цёпла апрануты і ўнутрана гатовы (як мне здавалася) да розных нечаканасцей, чакаў Мішу і яго напарніцу па гандлю Марыну на дамоўленым месцы побач са стадыёнам. Дарэчы, тое, што я вельмі легкадумна згадзіўся паспрабаваць сябе ў ролі «карабейніка» «ў любое надвор'е», стала мне зразумелым літаральна праз гадзіну пасля таго, як я выйшаў з кватэры. Ішоў мокры снег, які, як падалося, канчатковаператвараўся ў ваду, яшчэ не дасягнуўшы зямлі. Мой працоўны дзень яшчэ не пачаўся, а я ўжо з журбою ўсведамляў, як пакрысе знікае розніца паміж навакольнай хлюпотай і ўтульнай цеплынёю ўласных ботаў. Думкі аб тым, што пачынаць новую «кар'еру» ў мароз было б яшчэ горш, таму, наадварот, трэба радавацца, чамусьці амаль не грэлі... Супакоіўшы сябе нечым накшталт «ты сам гэтага хацеў», з падышоўшымі нарэшце Мішам і Марынай накіроўваюся ў камеру захоўвання насупраць «Дынама», каб атрымаць рэчы, якімі сёння належыць гандляваць.**



## ГАНДЛЯРАМІ НЕ НАРАДЖАЮЦЦА, АЛЕ...

Не ведаю, каму першаму прыйшла ў галаву думка ператварыць падвал бліжэйшага да стадыёна жылога дома ў месца захоўвання рэчаў тых, хто працуе на «Дынама» штодзень, але ўпэўнены, што ўдзячныя «карабейнікі» павінны яшчэ пры жыцці гэтага «героя» паставіць на яго радзіме помнік. У іншым выпадку проста не ўяўляю, як баулы такіх памераў і колькасці могуць перамяшчацца па зямной паверхні. Хіба толькі на грузавіку. Ну і, зразумела, некалькі соцень метраў — на руках і плячах іх уладальнікаў... Што мы разам і робім, папярэдне выцягнуўшы сумкі, палатку, цялежку і драўляныя падстаўкі пад ногі з нетраў каналізацыйна-ацяпляльнай гаспадаркі дома па паўразбуранай і стромай, нібы паверхня піраміды Хеопса, лесвіцы. Што падхапіўшы на рукі, што наклаўшы на цялежку, рушым да стадыёна. Вы бачылі карціну «Бурлакі на Волзе»? Дык вось, адбываецца нешта падобнае, з той толькі розніцай, што тупаць даводзіцца не па пяску, а па мешаніне з вады і снегу пад нахілам да зямной паверхні градусаў у сорак пяць ці блізка да гэтага. Побач, у такіх жа позах, перасоўваюцца і іншыя «калегі» па бізнесу. Нарэшце набліжаемся да службовага ўваходу, які мінаем... не спыняючыся. Перакідваючы ямчэй з рукі на руку палатку, цікаўлюся ў Мішы, чаму кантралёр не запатрабаваў ад нас платы. «Таму, што па нашых рэчах відаць, што ў нас тут арэнда месца, — тлумачыць «азы» той. — Да таго ж... Неяк адна педантычная бабулька спрабавала «навесці парадак», дык на наступны дзень паказвала сваёй сяброўцы падбітае вока...» (Забягаючы наперад, скажу, што потым мы неаднойчы выходзілі за тэрыторыю рынку, не маючы звыклых для большасці радавых наведвальнікаў білетаў. На ўваходзе іх ніхто не пытаўся, хаця ніякіх рэчаў (як першы раз) у нас у руках не было. Адзіным пропускам быў нахабны выраз твару...)

Адрываючы рукі («сёння яшчэ не ўсе рэчы ўзялі», — смяюцца рабяты), зносім сваю «гаспадарку» з лесвіцы, яшчэ сотня-другая метраў між гандлёвых радоў, месцы на якіх толькі-толькі запаўняюцца іх уладальнікамі — і мы на сваёй пляцоўцы. На ўсякі выпадак дамовіўшыся паміж сабой, што я — Мішын «сваяк», пачынаем рыхтавацца да гандлю. Найперш драўлянай рыдлёўкай спрабуем пазбавіцца ад вады і снегу пад нагамі, потым ставім палатку. Пакуль Міша збірае стол, Марына совае мне ў рукі скруткі мужчынскіх гальштукаў: развешвай. Кашулі, курткі, джынсы перакачоўваюць з баулаў на стол і сцены нашай «хаткі». У падышоўшага гандляра Міша бярэ на рэалізацыю некалькі відаў мужчынскіх і жаночых рамянёў, старанна заносячы тавар у агульны сшытак. (З кожнай чужой прададзенай рэчы гандляры маюць свой працэнт: з гальштука, напрыклад, адзін долар). Паколькі мокры снег не перастае, з дапамогай суседзяў (якія з'явіліся крыху раней нас) дадаткова нацягваем на палаткі поліэтылен. Цялежку, паўпустыя баулы — у куток, драўляныя падстаўкі пад ногі — і можна крыху астыць. Прыкладна адзінаццаць гадзін, гандаль вось-вось пачнецца (першыя пакупнікі ўжо зрэдку заглядваюць у палатку), але ёсць яшчэ час выпіць па кубку кавы з тэрмаса. Пацягваючы гарачы напой, прашу Мішу падзяліцца сакрэтамі свайго рамяства.

Высвятляецца, што гандлёвае месца належыць не яму, а «гаспадару», які, дарэчы, мае іх на «Дынама» некалькі. Нягледзячы на тое, што найбольшы прыбытак можна атрымаць, прадаючы ўласныя джынсы-кашулі, найперш трэба ўдала збыць менавіта яго тавар, інакш можна страціць, як кажуць, давер. Дарэчы, кошт месца дасягае зараз на «Дынама» за адзін дзень васьмі долараў. Лепшымі днямі для гандлю лічацца аўторак і субота-нядзеля. Бывае, нядрэнным выпадае чацвер. Сума прададзенага — самая розная: ад некалькіх долараў да некалькіх соцень. Прыбытак таксама дзеляць па-рознаму. У Мішы і Марыны, напрыклад, пяцьдзесят на пяцьдзесят. «І што з таго, што я цягаю баулы? — кажа хлопец. — Затое потым я толькі палатку «пільную», а гандлем займаецца Марына, тым больш, што гэта ў яе атрымліваецца значна лепш. Таму, лічу, усё справядліва. А то ведаеш, пакіне які-небудзь сваю напарніцу, ці нават жонку, адну на ўвесь дзень у палатцы — і гандлюй, і рэчы даглядай як хочаш...»

## ХТО НА «ДЫНАМА» МАЕ РАЦЫЮ?

Час за размовай бяжыць хутка, аб чым неўзабаве пачынае нагадваць холад у руках і нагах. Гарачыня ад ударнай працы па падрыхтоўцы да гандлю паступова знікае, і, каб не замерзнуць, прыходзіцца тупаць туды-сюды каля «прылаўка». Каб неяк узняць уласны настрой, спрабую сябе ў ролі прадаўца (Міша пералічвае тавар, Марына пайшла да знаёмых побач), звяртаючыся да ўсё больш актыўна зазіраючых у палатку жанчын-пакупніц: «Калі ласка, бярыце гальштукі — цудоўны падарунак мужу або сябру... Ёсць выдатныя кашулі пад дзелавы касцюм... Дзяўчына, гэтыя джынсы — толькі для вас...» Але мой «электарат», ледзь павёўшы вухам на гэтую рэкламу і памацаўшы раскладзеныя рэчы, чамусьці накіроўваецца далей. «Я ж табе казаў — дарэмна, — усміхаецца з нетраў палаткі знаёмы. — Пачакай, зараз прыйдзе Марына, тады гандаль і пойдзе». Нібы ў пацвярджэнне гэтых слоў ля «прылаўка» адначасова з'яўляюцца жанчына-пакупніца і наша Марына. Літаральна дзве хвіліны размовы — і яны зноў разыходзяцца: жанчына з гальштукам па сваіх справах, Марына — далей па сваіх, але ўжо з грашыма ў кішэні. «Я ж табе казаў, — зноў смяецца Міша, — сем гадоў у гандлі нешта ды значаць: ёй неяк інтуітыўна давяраюць, як жанчыны, так і мужчыны».

Насунуўшы шапку глыбей на вочы, усё роўна вырашаю не здавацца. Раптам бачу, як за два крокі ад мяне праходзіць мая колішняя настаўніца. Не ведаю чаму, але ў думках імгненна складаю яшчэ адну легенду: маўляў, у журналістыцы не плацяць, кінуў некалі любімую справу, зараз вось гандлюю на «Дынама» рэчамі... Але «фізіца», не заўважыўшы мяне, праходзіць міма. Затое пакупнікі пачынаюць заглядваць усё часцей і мне даводзіцца саступіць месца Марыне, якая пачынае спрытна іх абслугоўваць. Кашуля, гальштук, джынсы, зноў гальштук... Сапраўды, яна неяк інтуітыўна адчувае, хто проста цікавіцца, а хто гатовы купіць рэч. Імгненна «вылічыўшы» патэнцыяльнага пакупніка, прапаноўвае крышачку ніжэйшую цану. Дарэчы, бачыў на свае вочы, як спрацоўвае стэрэатып натоўпу ля «прылаўка»: людзі імкнуцца падысці туды, дзе ўжо нехта штосьці набывае. Але паступова «чарга» знікае, што дае мне магчымасць пагаварыць з Марынай. Цікаўлюся, якія яны наогул, пакупнікі, калі глядзець на іх вачыма прадаўца. «Розныя, — адказвае дзяўчына. — Адзін, нібы здзекуючыся, перабярэ ўсе рэчы, я перад ім душу выкладу, а ён знікне, нават не падзякаваўшы і нічога не набыўшы. Ведаеш, гэтыя — з «новых беларусаў»... А іншага нават пашкадаваць хочацца, гледзячы, як ён лічыць апошнія грошы. Не, я не падзяляю іх для сябе — пакупнік заўсёды мае рацыю. Заўсёды і таму і другому дапамагу выбраць рэч, параю, што яму лепш падыходзіць. Пытаешся, што раблю, калі пакупнік сам выбраў сабе нейкую вопратку, але яна яму не да твару? Я ж казала — хто плаціць, той і мае рацыю... Не люблю толькі тых, хто спрабуе цябе ашукаць, нават украсці нешта. Зрабіць гэта, дарэчы, досыць лёгка, асабліва калі ў палатцы адзін чалавек. Уяві: падыходзяць двое, і адзін з іх пачынае цікавіцца памерамі рэчаў, якія трэба, адвярнуўшыся, даставаць з сумкі. Потым яму матэрыял не падабаецца, колер, а ты імкнешся дагадзіць, шукаеш. У гэты час другі ціхенька знікае з якой-небудзь рэччу з прылаўка...»

У гэты час размову перапыняюць чарговыя пакупнікі — сямейная пара, якую цікавяць джынсы, і Марына просіць мяне выйсці з палаткі, каб не перашкаджаць дзяўчыне іх прымяраць. Паспяваю толькі заўважыць, што маладыя людзі — з майго роднага пасёлка. Ці мяне не разгледзелі, ці толькі выгляд зрабілі, але я таксама не адгукаюся. Толькі лаўлю сябе на думцы: цікава, сам паспею расказаць аб сваіх прыгодах родным і знаёмым на радзіме, або прыйдзецца ўжо тлумачыць? Глядзець на паўраспранутую дзяўчыну няёмка, таму з Мішам накіроўваемся ўздоўж гандлёвых радоў. Адначасова цікаўлюся, як той адчуваў сябе першы час у такой сітуацыі. «Ведаеш, напачатку было сорамна, пужаўся ўбачыць любы знаёмы твар, а потым нічога, звыкся».

Між тым, гандаль на «Дынама» «набірае абароты», нягледзячы на ўсё тое ж дрэннае надвор'е.

Сярод хлюпоты снуе ўсё больш людзей, якія спрачаюцца, мацаюць рукамі рэчы, разлічваюцца... Блукаць сярод гэтага натоўпу ледзь не па калена ў вадзе — занятак не з прыемных, і мы хутка вяртаемся да сваёй палаткі. Паспяваем якраз у той момант, калі ля яе спыняецца жанчына з чырвонай павязкай «кантралёр» на рукаве і зусім юны хлапчук у ахоўным адзенні з рацыяй на каўнеры вайсковай курткі. Правяраюць аплату арэнды. Марына і Міша пачынаюць даставаць нейкія паперкі з фотаздымкамі, квітанцыі.

Кантралёр, угледзеўшыся ў картку, звяртаецца да знаёмага: «Дык гэта ж не вы!» «Усё, — мільгае думка, — зараз нешта будзе. Нездарма ж гэты хлапчук з рацыяй бліжэй падышоў, напэўна, будуць «браць»... Але Міша адказвае, што пра даверанасць на гандаль у палатцы ад яе ўладальніка першы раз чуе і... канфлікт вычарпаны — «чырвоная павязка» мільгае ўжо недзе далей. Напэўна, заўважыўшы разгубленасць на маім твары, Міша смяецца: «Ведаеш, самому ўжо надакучыла кожны раз адно і тое ж паўтараць...»

## КАБ БЫЛІ І АВЕЧКІ ЦЭЛЫЯ, І ВАЎКІ СЫТЫЯ

Зноў забіваемся ў палатку і, перш чым працягнуць размову, амаль не вагаючыся прымаем рашэнне тэрмінова прыняць кардынальны сродак супраць холаду, які з кожнай гадзінай становіцца ўсё больш адчувальным.

За спінай нездаволенай з гэтай нагоды Марыны моўчкі, пад «пальцам пханую» хатнюю каўбасу, якую прыхапіў на снеданне Міша, моўчкі прымаем па сто грамаў «допінгу» (прызнаюся, спадзеючыся на літасць рэдактара — інакш яшчэ праз гадзіну ад дрыжыкаў у целе ў мяне адняло б сама меней мову).

Адчуваючы, як прыемнае цяпло паступова вяртаецца да рук і ног, што зайшліся ад холаду, вяртаемся да пачатку размовы. Кажу, што неаднойчы даводзілася выслухоўваць чуткі аб хабарніцтве (ці рэкеце?) на «Дынама». Так гэта ці не так?.. «Ведаеш, магу расказаць толькі тое, што бачыў на свае вочы. Узяць тых жа кантралёраў. Могуць, напрыклад, прапанаваць прадаць ім пэўную рэч па адпускной цане. За гэта абяцаюць не чапаць. А зрабіць адваротнае, сам ведаеш, можна вельмі лёгка, нават у адносінах да слупа». — «Але ж і вы, напэўна, нічога не страціце? Вось вы, бачу, з пачатку работы не выпісалі ніводнага адрыўнога талона (з раніцы па гучнагаворачай сувязі перыядычна чуўся напамін аб гэтай працэдуры, адрасаваны як пакупнікам, так і прадаўцам) — значыць падаткі будуць меншымі, так?.. Дарэчы, якім спосабам яшчэ можна не пакрыўдзіць сябе?»

«Як... Ды вось хаця б так. Бачыў, бывае, ля самай агароджы, з боку вуліцы, стаіць легкавік? А за самой агароджай — палатка, у якой гандлююць, напрыклад, відэамагнітафонамі або тэлевізарамі. Скажам, прадалі адзін, а на яго месца хуценька з машыны — другі, потым трэці, пяты. Любая праверка засведчыць, што ў паперах значыцца адна адзінка тэхнікі (дарэчы, вось яна стаіць), а колькі іх на самай справе было ўжо прададзена?..»

Нашу размову перапыняе Марына: пара збірацца. Сапраўды, час у добрай гутарцы бяжыць хутка, і мы нават не заўважылі, як пакрысе паменела людзей на стадыёне. Да таго ж, побач пачынаюць варушыцца суседзі, збіраючы свае палаткі. Пад мокрым снегам, што ні на хвіліну не спыняецца, пачынаем і мы складаць сваю «хатку».

Ранішняя працэдура паўтараецца з дакладнасцю да наадварот: гальштукі, кашулі, курткі, рамяні — у баулы, палатку ў чахол і на цялежку. Ледзь не наскрозь прамоклыя, ужо гатовыя рушыць да камеры захоўвання, раптам зноў пачынаем раскрываць сумкі. Нехта, відаць, з ранішніх пераборлівых пакупнікоў, дзень паблукаўшы па рынку і не знайшоўшы нічога лепшага ці больш таннага, у апошні момант вярнуўся да нашай палаткі. Памятаеце пра сіндром натоўпу?

За першым пакупніком, нібы ад гэтага залежыць яго жыццё, падскоквае другі, потым трэці... Я паспяваю толькі манатонна выцягваць з баулаў і зноў раскладваць прама на іх тавар. Марына спрытна абслугоўвае ўсіх жадаючых. Як жа, пакупнік заўсёды мае рацыю... Нарэшце чарга разышлася, і мы зноў уладкоўваем сваю «гаспадарку» на цялежку. Тут жа Міша і Марына дзеляць сённяшні прыбытак. Атрымліваецца каля дзесяці долараў на чалавека — дзень, па іх меркаванню, не самы лепшы. Ухапіўшыся за сумкі, пачынаем асцярожна, а потым напрасткі (бо ногі ўсё роўна мокрыя) прасоўвацца сярод пусцеючага літаральна на вачах рынку да выхаду. Зноў прыгадваецца карціна «Бурлакі на Волзе» і мроіцца гарачая ванна і кубак добрай кавы...

**P.S.**

**Як пажартаваў потым калега, даведаўшыся пра мае прыгоды, атрымаўся журналісцкі матэрыял не толькі «на свае вочы», але і «на свае рукі» і «свае плечы» — цела ад ударнай працы балела на працягу некалькіх дзён. Што ж, рэпарцёрамі таксама не нараджаюцца...**

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



Алесь АСТАШОНАК

# ДЗЕНЬ ЧЫНОЎНІКА

АПАВЯДАННЕ

Фестываль мастацтваў за якойсьці мяжою. З артыстамі, музыкантамі і мастакамі — чыноўнік. Культурных, вядома, спраў. Культурніцкіх. Пажангліруем словамі і назавём чыноўніка культуроўцам. Быў банкет з нагоды адкрыцця фестывалю. Дзён культуры, як кажуць. Чыноўнік любіць выпіць. На прыёмах — чыноўнікам будучы, нават культуроўцам, — асабліва не разап'ешся, але сталася так, што ў агульнай, нібыта брацкай эйфарыі, ён узяў лішняга. У апартаментах, ужо сам з сабою, заведзены, дабавіў. А назаўтра пазбаўлены быў звычайнай мажлівасці падлячыцца каньячком. Туалетная вада французская ёсць, кава, каб пах каньяку заглушыць, а грошай, каб той каньяк купіць, няма. Укралі грошы. Бог яго ведае як. Ці ён згубіў іх, ці засунуў куды. Увесь свой двухпакаёвы нумар перашнарыў, хоць і сілы зусім не меў, душа невядома ў чым трымалася, — марна. Няма грошай. Драбяза нейкая ў кішэні. І таварышы з консульства, у якіх можна было б пазычыць, — у ад'ездзе. А трэба зноў ісці на гэты — няхай на яго ліха! — фестываль. Ідзе. Дакладней, брыдзе. Сунецца. Мала не паўзе. Але ж на фестывалі падбіраецца: la noblesse oblige — становішча абавязвае. Вакол ягоныя апекаванцы, і кожны рады загаварыць з ім, скарыстаць мажлівасць, расказаць пра набалелае — сваё асабістае, агульна нацыянальнае. Падыходзяць. Расказваюць. З імпэтам. Доўга расказваюць. З надзеяй узіраюцца ў вочы. Культуровец нібыта слухае. Ківае галавою, згаджаецца, зрэдчас спрабуе нешта пярэчыць. О, як пакутуе ён!.. Адзін акцёр, наіўны, што дзіця, асабліва дапякае. Сакоча, сакоча і сакоча: «У нас у тэатры такое... такое робіцца — вы і ўявіць сабе не можаце!..» А каб ты спруцянеў разам з тваім тэатрам!.. Уявіў бы ты сам, што такое слухаць тваю траскатню, лапацень, з такога перапою не папраўіўшы нутро!.. Культуроўцу здаецца, што ён зараз з глузду з'едзе. І без тэатра. А з тэатрам — і пагатоў. Ды яшчэ з такім сакатуном. Гаспадары ўчора таксама добра хапанулі, але ці «падчахліліся» ўжо, ці звычкі такое не маюць і якіх-небудзь пігулак наглыталіся, — аднак трымаюцца цяпер так годна, быццам за ўсё сваё жыццё пітва гэтага і не нюхалі ніколі. Ветлівыя і гасцінныя, яны вязуць гасцей у Нацыянальны музей. Там да чыноўніка прыліпае гаваркі мастак і пачынае дабіваць яго размовамі пра адметнасць тутэйшых экспазіцый. «А вось у нашай галерэі, у нашай галерэі...» Таксама даверліва зазірае ў вочы. Просіць дапамагчы ў арганізацыі будучай выставы. Не сваёй — выставы — маладой змены. А каб ты выпрастаўся разам з тваёй галерэяй, выставай і зменай разам!.. О, ведалі б вы, як пакутуе ваш калега!.. Дах у яго ўжо едзе. Да абеду яшчэ далёка. Яны тут позна абедаюць. І невядома, ці будуць піць на тым абедзе. Яны ж, мабыць, не п'юць два дні запар. А калі і будуць, дык, можа, у яго пальцы задрыжаць. Як ён будзе відэлец трымаць, нож? Не, ён адмовіцца ад абеду, спаслаўшыся на тое, што хоча трымаць сябе ў форме і таму перыядычна галадае. Чакай, ці не здурэў ты? Адмаўляцца нельга. Этыкет. Працэдура. «У нашых суполках...» — расказвае яму мастак. Трэба будзе ўзяць сябе ў рукі. Дзе ж яшчэ пахмелішся, як не на абедзе? А што, калі яны зладзяць да абеду якісьці маленечкі, на галоўных асоб, столік? Ён жа ўсё-такі прадстаўнік краіны і прадстаўнік няпросты — кіровец. Сапраўды, кіровец ён ці не кіровец?.. «Ведаеце, у мяне з'явілася цікавая ідэя наконт арганізацыі чытанняў...» — прыбіўся да яго абнадзеены паэт. Раптам у чыноўніку прачынаецца спагада. «Даруй, хлопча, мне б цяпер твой клопат», — зняможана ўзіраецца ён у вочы паэту, быццам хоча перадаць яму ўсю сваю пакуту за нацыянальнае мастацтва. Паэт потым будзе ўсім расказваць пра неверагодны чыноўніцкі позірк, пра ягоны боль за нашае, крэўнае. Болей бы такіх чыноўнікаў, наладзілася б тады ўсё ў нас, дадасць ён пераканана. Дый ніякі ён не чыноўнік — сапраўдны работнік культуры, які спрыяе нам і дапамагае. І ўсе будуць добра і спагадліва гаварыць пра чыноўніка, калі таго «праводзяць» на пенсію. На заслужаны адпачынак. Але пакуль што культуровец на фестывалі, і століка, нават шведскага, для галоўных асоб ніхто не арганізуе. Са шведскім было б цяжэй: высока келіх падымаць, большае поле, каб назіраць за ім. Аднак падняў бы, хоць і высока. Ды толькі, мяркуючы па ўсім, падымаць не давядзецца. Прынамсі, пакуль што. Да абеду ж не так далёка — усяго тры гадзіны. Гаспадары свае страўнікі трымаюць у кандыцыі. Усе хударлявыя, спартыўныя. Трушком, мабыць, сёння ўранку бегалі, пакуль яго трусіла. У чыноўніка — прыметныя назапашвані. Ён трушком хіба што ў гастраном, назаўтра, дома, дый тое зрэдку, калі засекі пусцеюць. Праходзіць у пакутах час. Нарэшце ўдача зліталася. Пад зручнай прычынай: «Я аматар гатычнай архітэктуры, люблю пабыць з ёю сам-насам, пахадзіць па старажытных вулках», — яму ўдаецца выслізнуць аднаму ў горад. За рагом ён імгненна, мітусліва прыспешвае — ну толькі што вось такую паважную хаду. Разняволіўся — і яго мала не затрэсла. Ажно ўзмакрэў. Кашуля прыліпла да спіны. Па твары сцякаюць з ілба струменьчыкі поту. Выціраецца ледзь паспявае. На адной вулцы ён нарэшце знаходзіць піўніцу. Палічыўшы непрыметна ўбаку грошы — іх хапае роўна на куфаль піва, — ён аддае іх бармену. Пальцы ў яго вельмі ўжо прыметна дрыжаць. Яму аж няёмка перад барменам. Той з цікаўнасцю ўзіраецца ў яго: такі сталы, самавіты, прыстойна апрануты мужчына — і... Што ж, бывае... Бармен прыязна ўсміхаецца і адпускае наконт чыноўніка нейкі лёгкі жарт. Ведаў бы ты, смаркач, хто перад табою, са злосцю думае культуровец, гледзячы, як льецца піва. Пеннае, пагляднае з колеру. Смачнае, мусіць, піва. У іх яно заўсёды смачнае. І куфаль адметны, з такога нашмат прыемней піць. Толькі што з тае прыемнасці, раптам з нудою думае ён. Лепш бы ўжо гарэлачкі з «малянкоўскага». Без закусі, халера з ім, з пахам!.. Самі не святыя, гэтыя «гасцінныя» гаспадары... Рускай бы зараз, белавежскай, крышталіку... Старадарожскай, маладзечанскай, нарачанскай, слуцкай... Але і піва павінна крыху дапамагчы. Хоць бы на паўгадзіны. Акурат столькі засталося да абеду. Можа, «гасціннікі» і дадумаюцца нешта выставіць? Няўжо ў іх галовы не баляць?.. Не драўляныя ж у іх чарапы. Не чыгунныя. У яго дык цэбар аж трашчыць. Бармен падае яму піва. Дрыготкай рукою культуровец бярэ куфаль і адыходзіць да століка. Сядае. Прагна дакранаецца вуснамі да доўгачаканага напою. Моршчыцца. Піва — цёплае і з цукрам.

*1993. За мяжою.*

АНТАЛОГІЯ АДНАГО ВЕРША

**Леў КАРАІЧАЎ**

***

*Асфальт быў шэры, моцны, роўны.*
*Па ім прайшлі мільёны ног.*
*І хто б падумаць толькі мог,*
*Што моц яго і сілы — кволы.*

*Усё жывое, што пад ім, —*
*Там назаўсёды засталося*
*На многа год, як павялося,*
*Ужо не ўбачаць свет жывым.*

*Прыгрэла сонца, дождж паліў,*
*І вось асфальт заварушыўся,*
*Прыўзняўся неяк, апусціўся —*
*І белы грыб яго прабіў.*

*Калі маркотна на душы,*
*І ўсё чакаеш той пагоды —*
*Вучыся жыць ты у прыроды,*
*І моц і сілу ў ёй бяры.*

## МУЗЫКА НАДЗЕІ

**У канцы красавіка ў Гомелі адбудзецца міжнародны конкурс «Музыка надзеі».**

Яго праводзяць Міністэрства культуры і друку, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на ЧАЭС, упраўленне культуры Гомельскага аблвыканкома сумесна з ЮНЕСКО. У ім прымуць удзел юныя скрыпачы, віяланчэлісты, піяністы, духавікі ва ўзросце да 16 гадоў, якія пражываюць у пацярпеўшых раёнах Гомельскай, Магілёўскай, а таксама Бранскай і Чарнігаўскай абласцей. «Нам неабходна захаваць кожны юны талент, дапамагчы яму расквітнець», — гаворыцца ў звароце аргкамітэта конкурсу да ЮНЕСКО.

**Леанід УЛАДЗІМІРАЎ.**

## Калі чужыя песні надакучылі, хочацца ўспомніць пра свае

**Здаецца, амерыканскія беларусы пільна сочаць не толькі за палітычнай сітуацыяй ў нашай краіне, але і за развіццём культуры, за справамі музычнымі. Лепшым за 1995 год Кліўлендскі аддзел Беларуска-амерыканскага задзіночання назваў гурт «Палац».**

У ганаровай грамаце, падпісанай старшынёй задзіночання Янкам Ханенкам, запісана: «Прэміяй імя Сяргея Карніловіча ўзнагароджваецца беларускі рок-гурт «Палац» (г. Менск) за песню «Пайду я ў новую канюшню». Гэтым таксама адзначаецца значны ўнёсак гурта «Палац» у развіццё беларускага музычнага мастацтва».

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ГУЛЯЦЬ ДЫК ГУЛЯЦЬ

Іразнеслася гэта выслоўе па нашых вечназялёных прасторах, загучала сакавітай прымаўкай. Акрыленае зычнай мелодыяй на песенна-паэтычным фестывалі «Маладзечна-93», яно трывала замацавалася ў нашым лексіконе. Як падсумаванне зробленага, калі варта ўжо разняволіцца, адысці ад працоўных клопатаў, як зычанне-заклік да прыемнага адпачынку прамаўляем: «Гуляць дык гуляць».

Людзям патрэбны святы. І вялікія, рытуальныя. І менш прыметныя, сяброўскія. Пасля напружанай працы цела патрабуе адпачынку. Яно прагне спакою, каб аднавіць сваю моц. А душа?! Яна мацнее і святлее ў перыяд надзвычайнага абуджэння, у працэсе суперажывання, асабліва ў любові і каханні.

Падчас падрыхтоўкі да святкавання людзі імкнуцца наладзіць сувязі, гармонію ў сваім асяродку, каб прынесці радасць блізкім, сябрам, стварыць для іх хараство, — і тут усё мімаходнае, што акаляе іх у будзённасці, адыходзіць на другі план, робіцца для іх неістотным, другарадным, а то і непатрэбным.

Святы, якія б яны ні былі па значнасці, заўсёды прасвятляюць душы людзей, надаюць іх памкненням чысціню, узнёсласць, стваральнае абуджэнне.

Незаменны сувязны на свяце — песня. Яна яднае людскія душы, лучыць іх з прастораю. Яна пабуджае ўсіх прысутных на святкаванні прамаўляць адны і тыя ж словы, аднолькава думаць, нават у аднолькавым рытме дыхаць. Аднак сталася так, што падчас свята, нават за бяседным сталом, калі людзі адчуваюць сябе найбольш вольна, прагучаць, у лепшым выпадку, адна - дзве беларускія народныя песні ды некалькі на рускай мове. Дзе ж наша яднанне? Паміж сабою, з роднаю прасторою? Нам неабходна спяваць. Нам трэба яднацца. І духам, і думкаю. і ў працы, і на свяце, і за бяседным сталом...

Уладзімір Някляеў шырока вядомы як паэт-лірык, філосаф-трыбун. Ведаюць яго і як аўтара тэкстаў шматлікіх песень. Прыгадаем некаторыя з некалькіх дзесяткаў, каб вызначыць разнастайнасць іх тэматыкі: «Світанак», «Школьны вальс», «На мяжы расстанняў і сустрэч», «Поле памяці», «Віно на палыне», «Белае віно і чырвонае», «Маўчанне», «Мілая жанчына». Да вершаў паэта звяртаюцца практычна ўсе кампазітары. На працягу 25 гадоў ён актыўна супрацоўнічае з ансамблем «Верасы».

Вялікая заслуга Уладзіміра Някляева ў тым, што ён з'яўляецца адным з аўтараў бяседных песень, якія так неабходны для далейшага развіцця беларускага грамадства. Падчас стрэчаў — на застоллі, сярод



родных, сяброў-таварышаў ці на прыволлі — заўсёды радуешся, і абуджаны дух настойліва імкнецца да яднання. Суладдзе ў яднанні падтрымліваецца песняй, найперш песняй на той мове, якую нарадзіла навакольная прастора, і мелодыяй, сугучнай з рытмамі роднага краю.

Песня «Гуляць дык гуляць» сваімі мастацка-вобразнымі сродкамі, зместам і танальнасцю блізкая да народных вытокаў. Лірычны голас Анатоля Ярмоленкі, салiста і мастацкага кіраўніка ансамбля «Сябры», у рэпертуары якога знаходзіцца гэта песня, цёпла, з акцэнтуючай заглыбленасцю, даносіць па-народнаму простыя, але мудрыя, па-філасофску абагульненыя выразы. Калі побач сябры, калі ты ветліва і сардэчна прыняты грамадою, калі нязмушана разгортваецца бяседа («Хто адгуляў — спачывай»), — ёсць надзея на стабільную будучыню, на трывалую падтрымку. І можа гэта гучыць і не надта выразна, але менавіта так выяўляюцца характар беларуса, яго пазіцыя: «Так ці гэтак — неяк будзе».

Музыка, створаная Валерыем Івановым, светлая, крыху запаволеная, у рытме вальса. Яна пабуджае да медытацыі, да асэнсавання таго, што адбываецца вакол нас, засяроджвае ўвагу на існасці нашага жыцця — утрыманні духу нязломным, нескароным, напаўняе ўпэўненасцю ў сяброўскай спагадзе, агульначалавечай любові.

Гэта песня не пра падпітае гульбішча. Але яна спазнала цяжар грамадска-палітычных стасункаў. Напісаны ў сярэдзіне 1980-х гадоў, вакальны твор пра людское ўзаемаразуменне і вольнасць духу адразу пасля свайго нараджэння патрапіў пад шал антыалкагольнай кампаніі. Паэту прапанавалі перапрацаваць тэкст, зрабіць яго больш-менш сугучным з партыйным курсам. Але ён не згадзіўся. І песня «Гуляць дык гуляць» мусіла чакаць сваёй пары. І зорны час для яе настаў. Пасля Маладзечанскага фестывалю 1993 года яна стала папулярнай. І неабдымнай як на святах, так і ў будні.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




## ГУЛЯЦЬ ДЫК ГУЛЯЦЬ

*ВЕРШ Уладзіміра НЯКЛЯЕВА*
*МУЗЫКА Валерыя ІВАНОВА*

Сёння ў нашай хаце свята,
Калі ласка ў нашу хату.
Гэй, рады прыняць —
Гуляць дык гуляць.

*Прыпеў:*
Сёння гудзе ад ранку ў нас гулянка,
А ўчора з вячора.
З намі гуляй, хто хоча, хоць да ночы,
Хто адгуляў — спачывай.

Ліха з горам ды бядою
Скосім разам з лебядою.
Гэй, кінь гараваць —
Гуляць дык гуляць.

*Прыпеў:*
Покуль жывы ў свеце людзі,
Так ці гэтак — неяк будзе.
Гэй, жыць — не ўміраць,
Гуляць дык гуляць.
*Прыпеў.*

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Волат Хведар

**Пра волата Хведара Махнова, што нарадзіўся ў сялянскай сям'і непадалёк ад Віцебска ў 1878 годзе, дагэтуль ходзяць легенды.**

БАЦЬКІ І ДЗВЕ ЯГО СЯСТРЫ былі зусім звычайнага росту. Сам Хведар да 7 гадоў таксама нічым не вызначаўся. Расці ён пачаў пазней, літаральна не па днях, а па гадзінах. К 12 гадам «перасягнуў» два метры. Вызначаўся ён і сілай — у васьмігадовым узросце мог перамагчы дарослага мужчыну.

Упершыню Хведара паказалі «на людзі» ў чатырнаццаць гадоў. Бацька ўзяў сына ў Віцебск гандляваць яблыкамі. Прысутнасць хлопчыка-волата на рынку стала сенсацыйнай падзеяй.

Неўзабаве мясцовыя вандроўныя артысты прапанавалі выкарыстаць яго сілу і рост у сваіх нумарах. Разам з імі Хведар аб'ездзіў мноства расійскіх гарадоў, былі гастролі па краінах Еўропы і нават ЗША. Волат гнуў падковы, разбіваў далонню цагліны, лежачы ўтрымліваў платформу, на якой іграў цэлы аркестр.

У час гастроляў у Хведара было нямала клопату, таму што транспарт, атэлі і рэстараны былі разлічаны на звычайных людзей. Можа таму, накатаўшыся па свеце і сабраўшы сродкаў, віцебскі волат усё ж вярнуўся ў родныя мясціны, дзе набыў невялікі хутар. Неўзабаве ён ажаніўся з сялянскай настаўніцай Ефрасінняй Лебедзевай. У сям'і нарадзілася пяцёра дзяцей. Ва ўсіх быў цэлы сажань у плячах, а рост самага высокага — Мікалая дасягаў 2 метраў.

Рост прыносіў Хведару Махнову нямала клопату. Ён сам сабе змайстраваў ложак. Сам шыў адзенне, абутак. А што яшчэ было рабіць, калі даўжыня яго ступні была за паўметра, даўжыня далоні — трыццаць два сантыметры, а вага дасягала 187 кілаграмаў?

Нягледзячы на атлетычны целасклад, Хведар Махноў часта хварэў. Памёр ён у 1912 годзе, не дажыўшы да трыццаці пяці гадоў, і быў пахаваны на мясцовых могілках.

Але яго астанкаў у труне няма, шкілет Махнова быў перавезены ў анатамічны музей Мінскага медыінстытута. Куды шкілет дзеўся пасля Вялікай Айчыннай вайны — невядома. Але дагэтуль на магільным крыжы захаваўся надпіс, што рост яго быў 3 аршыны 8 вяршкоў — гэта роўна 254 сантыметрам. Аднак тыя, хто ведаў Хведара Махнова, гаварылі, што ў ім было 3 аршыны і 12,5 вяршка, што складае 263 сантыметры. Сваякі ж сцвярджаюць: яго рост на самай справе быў 285 сантыметраў... Калі гэта так, дык беларус Хведар Махноў быў самым высокім чалавекам на зямлі.

Магчыма, нехта, прачытаўшы гэтую заметку, прыгадае, што недзе ўжо некалі паведамлялася пра вялікага Хведара. І будзе мець рацыю. Але мне, беларусу, не дае спакою думка: ці сапраўды мой «супляменнік» быў і застаецца самым высокім чалавекам у свеце?

**Пётр ЖЭБРАК.**

ЗОРНЫЯ ВЕДЫ

## Год Арла і Мышы

***У першы маладзік Вадалея — 19 лютага мы ўступілі, па ўсходняму календару, у год Мышы (ці Пацука), па календару авестыйскаму — у год Арла. Каму што па душы — тое і выбірайце!***

ТЫСЯЧАГОДДЗІ НАЗАД на тэрыторыі Паўночнага Урала існавала дзяржава Хайрат, — расказвае мінскі астролаг-псіхолаг Людміла Лезава. — Яе жыхары верылі ў рэлігію Агню і Святла і стварылі сістэму запаветных ведаў, якая называецца Авестыйскай астралогіяй. На рацэ Чусавой у цяперашняй Пермскай вобласці ў тыя гады нарадзіўся першы прарок — Заратуштра, ці Зараастр, і таму гэтую старажытную рэлігію называюць Зараастрыскай. Блізкую да Авесты культуру і рэлігію мела язычніцкая Русь. Іх агульныя карані прасочваюцца ў многіх культурах свету.

Пасля прыняцця хрысціянства авестыйская традыцыя падверглася ганенням, нягледзячы на тое, што першыя хрысціяне прызнавалі астралогію, як Каран ці Евангелле. Вітаць нараджэнне Хрыста як Выратавальніка прыйшлі халдзеі-астролагі, якія вылічылі яго з'яўленне на свет па зорках. Сюжэты, апісаныя ў Гатах Заратуштры, — пра гарчычнае зярнятка, пра ваду, якая ператвараецца ў віно, пра сейбіта і аратага — былі потым паўтораны ў Бібліі. Цяпер зараастрызм спавядаецца ў Іране. У нашай краіне авестыйскае вучэнне атрымала шырокую вядомасць дзякуючы намаганням Паўла Глобы і яго вучняў.

Вялікая ўвага ў Авесце ўдзяляецца календарам як непахіснаму існаму ў параўнанні са зменлівасцю планетарных уплываў. Існуюць месячны і сонечны календары. 32-гадовы ж авестыйскі каляндар заснаваны на цыклах планеты Сатурн. Ён адлюстроўвае і асноўныя цыклы жыцця чалавека, указвае на перыяд змены пакаленняў. Сатурн (тое ж, што і Хронас) — бог часу. Прынцып Казярога, якім кіруе Сатурн, — дасягненне вяршыні, шлях наперад і ўгору. Пры гэтым прынцып самога Сатурна — абмежаванне. Сатурн скідвае з вяршыні тых, хто не ўмее цярпець, дамагацца поспеху паступова, прыступка за прыступкай, абапірацца на рэальнасць і ў дасягненні мэтаў. Сатурніянскі каляндар прынцыпова адрозніваецца ад 12-гадовага ўсходняга календара, заснаванага на цыклах планеты Юпітэр, які атрымаў у апошні час шырокае распаўсюджанне. Але пачатак абодвух прывязаны да месячнага календара...

Які ж будзе год Арла ці Мышы? У святле астралагічных з'яў...

— У 1993 годзе, — паведамляе Людміла Лезава, — адбылася знамянальная падзея — злучэнне Урана з Нептунам, што адбываецца раз у 171 год. Гэтае злучэнне парушае ранейшыя міфы чалавецтва, каб прыўнесці ў жыццё стыхійны струмень новага. Менавіта з гэтай з'явай было звязана крушэнне старой ідэалогіі. Уплыў гэтай падзеі будзе адчувальны і ў 1996 годзе, але ўпершыню анархія пераўтварэнняў уступіць месца аб'ектыўнаму погляду: з Уранам і Нептунам злучыўся Юпітэр, а гэтая планета будзе імкнуцца ўкараніць новую ідэю ў грамадскай свядомасці.

У 1977 годзе таксама адбудзецца знамянальная падзея — квадратура Урана і Празерпіны. Празерпіна — гэта нядаўна адкрытая планета, яна вельмі далёка знаходзіцца ад Сонца. Яе перыяд абарачэння вакол яго складае 650 гадоў.

Уплыў Празерпіны на зямное жыццё цяжка пераацаніць. Яна з'ўляецца сукіраўніцай знакаў Дзевы і Блізнят, а значыцца ўплывае на здароўе і навуку, гандаль і інфармацыю. Яе дзеянне звязана з пераходам працэсаў на другі ўзровень набыцця і праявы мноства дробных дэталяў. Набыццё адбываецца марудна, а якасны скачок незваротны. Уран жа з'яўляецца сімвалам імгненнага, рэзкага перавароту, з'яўлення зусім новай, не існаваўшай раней якасці. У горшым выпадку адбываецца катастрофа, у лепшым — азарэнне. Акрамя таго, Уран з'яўляецца кіраўніком Вадалея, а пра наступленне эпохі Вадалея астролагі гавораць ужо даўно.

Аспект напружанасці паміж гэтымі планетамі будзе азначаць рэзкі і якасны паварот у грамадскім развіцці. У 1996 годзе найбольш блізка да апісанага размяшчэння планеты падыдуць у маі, але потым, быццам перадумаўшы, Уран развернецца ў адваротным напрамку, даўшы чалавецтву на роздум яшчэ паўгода. Увесь 1997 год пройдзе пад эгідай гэтай нябеснай з'явы.




ДА ЧЫТАЧА!

**Вядучы старонкі Васіль АРОН.**

***Тры сямёркі — тайна святла, ці, калі хочаце, Бога. Для розуму рацыянальнага лічбы — толькі лічбы, і больш нічога. Але міжволі і традыцыйна, услед за забабонамі продкаў, мы прыпісваем лічбам і містычны сэнс.***

*Тры сямёркі — «Откровение Иоанна Богослова», што завяршае Біблію, ці формула Апакаліпсіса. Успомнім: спачатку Іаан бачыць Бога, які сядзіць на прастоле і трымае ў руцэ кнігу, апячатаную сямю пячаткамі (першая сямёрка). Па меры зняцця пячатак адбываюцца розныя цуды-адзнакі, а калі знята апошняя пячатка, з'яўляюцца сем анёлаў з трубамі (другая сямёрка)... Калі сёмы анёл пратрубіць, на сцэне з'яўляюцца сем чаш гневу Гасподняга (трэцяя сямёрка), які выліваецца на зямлю...*

*Тры сямёркі — гэта і ўсім вядомыя па ігральных картах тройка, сямёрка плюс туз, звязаныя ў «трыяду» цікавай матэматычнай заканамернасцю, якой таксама іншы раз надаецца нейкі містычны сэнс, напрыклад, у «Пікавай даме» А. С. Пушкіна.*

*За ўсім гэтым наша забабонная свядомасць бачыць нейкую тайну, якая можа ўвасабляць сабой свет намі пакуль не пазнанага, не зразумелага, не растлумачанага — як у плане асэнсавання мінулага, так і неўтаймаванага нашага імкнення ў думках пранікнуць у будучыню, а таксама ў саміх сябе. Спробе пранікнуць у гэтую тайну, з'явам і падзеям унікальным, што раскрываюць невычарпальныя магчымасці чалавека, цывілізацыі, і шмат чаму іншаму мы маем намер прысвяціць старонку «Тры сямёркі».*

## ФАНТАСМАГОРЫЯ?

**14 снежня 1992 года амерыканскі ваенны карабель выратаваў 13 чалавек з... «Тытаніка», што затануў 83 гады назад у Паўночнай Атлантыцы з сотнямі жывых пасажыраў на борце.**

Паводле паведамлення даследчыка і пісьменніка, эксперта па марскіх катастрофах Філіпа Старнеса, 13 выратаваных з «Тытаніка» пасажыраў былі перавезены на сакрэтную ваенную базу, дзе спецгрупа вучоных з Пентагона вывучае ўсю інфармацыю пра дзіўнае ўсплыванне судна на паверхню акіяна.Першае паведамленне пра гэтую падзею перадало па радыёсувязі нарвежскае рыбалоўнае судна, якое вяло лоўлю селядцоў у Паўночнай Атлантыцы. На працягу некалькіх хвілін нарвежскія рыбакі былі сведкамі, як пасажыры з «Тытаніка» прасілі аб дапамозе, потым падышоў карабель ВМС ЗША. Удалося Старнесу пагутарыць і з афіцэрам, які прымаў удзел у выратавальнай аперацыі. Ён высветліў, што пасажыры з «Тытаніка» мелі ўзрост ад 21 да 62 гадоў, дакументы іх датаваліся да 1912 года і ў іх быў правал у памяці. Усе яны выглядалі на свае гады, як бы знаходзіліся па-за біялагічным часам,

«Пентагон налажыў суровае вета на гэтую справу, — гаворыць Старнес. — Пакуль не будзе афіцыйных паведамленняў, гэты выпадак з'яўляецца дзяржаўнай тайнай. Пакуль жа Старнес расказаў: «Магчыма, у гэтым выпадку было перамяшчэнне людзей у часе і пераход іх у іншае вымярэнне».

# Ці здольны камп'ютэрны вірус забіць чалавека?

### *Смерць праграміста*

***Даведка***

**Камп'ютэрныя вірусы — асаблівыя праграмы, якія, трапіўшы ў машыну, пачынаюць умешвацца ў яе работу: блакіруюць асобныя файлы інфармацыі ці зусім сціраюць памяць камп'ютэра. Па ацэнках спецыялістаў, сёння ў свеце зарэгістравана ўжо каля трох тысяч разнавіднасцей такіх «вірусаў», што паражаюць персанальныя ЭВМ, і кожны тыдзень прыносіць яшчэ 3—5 новых. Большая частка гэтай «інфекцыі» ствараецца ў межах былога СССР.**

ТРАГІЧНАЕ і адначасова загадкавае здарэнне адбылося ў Варонежы. Малады праграміст Сяргей П., працуючы за манітарам персанальнага камп'ютэра, раптам страціў прытомнасць. Прыбыўшая па выкліку «хуткая дапамога» канстатавала смерць ад кровазліцця ў мозг.

Відаць, гэтая смерць нікому і не здалася б дзіўнай — бо незадоўга да здарэння Сяргей паскардзіўся на галавакружэнне і боль у скронях. Але адзін з яго сяброў паглядзеў на ўключаны экран манітора і... сам ледзь не загінуў. Вось як ён апісвае ўзнікшыя ў яго адчуванні:

«На экране свяцілася звычайнае акно «Нортан камандэра», а пачуццё ўзнікла такое, быццам цябе зацягвае ўнутр. Галава стала цяжкай, шум у вушах. І адарваць позірк ад экрана было немагчыма, быццам бы гіпноз — нават рукой не паварушыць. Мне ўсё ж удалося адарвацца: дзякуй Богу, я дрэнна паддаюся ўнушэнню. Дацягнуўся да выключальніка і адключыў сілкаванне. Сяджу, нічога не разумею, і тут мой калега З. гаворыць, што Сяргея забіла гэтая машына...»

Адчуўшы нядобрае, правялі стараннае тэсціраванне ўсіх праграм камп'ютэра і знайшлі загадкавае нешта, што магло б быць электронным вірусам. Яны абазначылі яго «сатанінскай лічбай», таму што даўжыня віруса як раз раўнялася 666 байтам.

На думку варонежскіх праграмістаў, вірус «666» і стаў сапраўднай прычынай гібелі іх таварыша. Як гэта магло здарыцца?

Яшчэ ў 60-я гады ў Амерыцы праводзіліся эксперыменты па манціраванню ў кінафільмы скрытай рэкламы, выкарыстоўваючы эфект 25-га кадра. Справа ў тым, што чалавечае вока здольна заўважаць усяго 24 кадры ў секунду. Але 25-ы кадр, хоць і праходзіць незаўважаным, усё ж трапляе ў падсвядомасць. Высветлілася, што гэты эфект можа стаць магутным сродкам тайнага ўнушэння. Эксперыменты былі забаронены... Але на экране камп'ютэра кадры мяняюцца з той жа частатой, што і ў кіно. Дык вось, на думку варонежцаў, вірус «666» выдаваў на манітор 25-м кадрам спецыяльную каляровую кампазіцыю, што ўводзіла чалавека ў своеасаблівы гіпнатычны транс. Паступова карцінка мянялася, і падсвядомае ўспрыманне скрытых узораў прыводзіла да змянення сардэчнай дзейнасці — рытму і сілы скарачэнняў. Артэрыяльны ціск у малым крузе кровазвароту рэзка ўзрастаў. Потым рэзка падаў. Потым зноў узрастаў. І так да таго часу, пакуль не вытрымлівалі сасуды галаўнога мозгу.

«Варонежскае здарэнне» выклікала гарачыя спрэчкі на канферэнцыі, прысвечанай праблемам камп'ютэрных вірусаў. Паводле даных некаторых праграмістаў, працаваўшых у камп'ютэрных сетках, за апошнія некалькі гадоў у СНД назіралася яшчэ 46 выпадкаў з падобнымі сімптомамі. А першае з'яўленне віруса «666» быццам бы адбылося ў Маскве 6 сакавіка 1994 года. Але ў цэлым агульнае меркаванне звялося ў выніку да фразы, якую выказаў Ю. Ляшчэнка, эксперт камп'ютэрнай фірмы «Дыялог-Навука»: «Гэта трызненне (ці, калі хочаце, жарт), якое ніякіх сур'ёзных падстаў пад сабой не мае».

На гэтым можна паставіць кропку ў гісторыі з загадкавай смерцю праграміста, але не варта наогул памяркоўна ставіцца да гэтай праблемы. Нават калі вірус, падобны на «тры шасцёркі», яшчэ не існуе, ён зусім можа з'явіцца ў самай недалёкай будучыні. Альманах «Не можа быць», напрыклад, прыводзіць словы англійскага вучонага Стывена Хокінга — ён узначальвае ў Кембрыджскім універсітэце тую самую кафедру, якой некалі кіраваў Ісаак Ньютан. Хокінг сказаў нядаўна на камп'ютэрнай канферэнцыі, што адбылася ў Бостане: «Камп'ютэрныя вірусы варта лічыць адной з формаў жыцця. І гэтае штучнае жыццё, створанае чалавекам, служыць выключна для разбурэння».

Чаму вучоны назваў электронныя вірусы «жывымі»? Таму што яны, як і іншыя істоты, здольныя, акрамя ўсяго, да самаразвіцця і ўдасканалення сваіх магчымасцей. А таму што іх асноўная мэта — знішчэнне і разбурэнне, дык, магчыма, з часам яны навучацца «забіваць» не толькі камп'ютэры, але і аператараў такіх машын. І гэта зусім дапушчальна, таму што сучасныя тэхналогіі тыпу «віртуальная рэальнасць» робяць сімбіёз камп'ютэраў з чалавекам усё больш цесным.

Аднак калі небяспеку загінуць ад электроннага віруса можна аднесці пакуль у разрад гіпатэтычных, дык самі камп'ютэры ўжо цяпер наносяць людзям велізарную шкоду. Нядаўна ў Дзяржаўнай думе Расіі адбыліся слуханні, прысвечаныя праблемам забруджання навакольнага асяроддзя электрамагнітнымі і іншымі выпраменьваннямі. Нямала горкіх слоў там было прысвечана і персанальным ЭВМ. Справа ў тым, што Расійскі цэнтр электрамагнітнай бяспекі правёў экспертызу камп'ютэраў, што прадаюцца ў гэтай краіне, і прыйшоў да высновы, што больш за палову з іх небяспечныя для здароўя. Даследаванні паказалі, што завышаныя ўзроўні выпраменьванняў назіраюцца часам нават за 2,5 метра ад экранаў такіх машын. А работа за маніторам ад двух да шасці гадзін у суткі прыводзіць да павелічэння функцыянальных парушэнняў цэнтральнай нервовай сістэмы ў сярэднім у 4,5 раза, росту хвароб апорна-рухальнага апарата — у тры разы, хвароб сардэчна-сасудзістай сістэмы — у два разы.

Урачамі ўстаноўлена таксама, што частае ўздзеянне электрамагнітных палёў ад манітора камп'ютэра прыводзіць да анамальных зыходаў цяжарнасці. Абследаванне 1.583 цяжарных жанчын, праведзенае ў Оклендзе (ЗША), паказала, што пры рабоце больш як 20 гадзін у тыдзень у першыя тры месяцы цяжарнасці адбылося ў два разы больш выкідышаў, чым у жанчын, занятых на іншых работах. У Канадзе было абследавана 17.735 жанчын, якія працуюць на камп'ютэрах без ахоўных экранаў. Выснова: верагоднасць ненармальнага працякання цяжарнасці ўзрастае ўжо пры працягласці работы больш за чатыры гадзіны ў тыдзень. Шведскія спецыялісты ўстанавілі, што ў карыстальнікаў персанальных ЭВМ у 2,5 раза часцей з'яўляюцца дзеці з прыроджанымі калецтвамі.

Ці можна ў сувязі з гэтым радавацца, што камп'ютэры ў Расіі хоць і існуюць, але для пераважнай большасці людзей застаюцца пакуль заморскім цудам? Прагрэс і час дыктуюць свае ўмовы, і ўсеагульная камп'ютэрызацыя краіны непазбежная. Калі ўжо цяпер не задумвацца пра праблемы і небяспеку, што нясуць з сабой «разумныя машыны», дык да нас у дом прыйдуць не сябры, а «міны запаволенага дзеяння», якія, замест таго каб аблегчыць наша жыццё, асудзяць нас на хваробы, а можа і заўчасную смерць.

**Ігар ЦАРОЎ.**

**(«Труд»)**

**Даведка**

**Спецыялісты папярэджваюць: «Нельга выключыць небяспеку пранікнення віруса «666» у рознага роду камп'ютэрныя застаўкі і рэкламныя ролікі, што паказваюцца па тэлебачанні.**

**Вынікі пасля пракручвання «заражаных» фільмаў, скажам, па першым канале ТБ могуць быць самыя непрадказальныя».**

# МАЛАДАЯ СЯМ'Я: ЯК НЕ АЗМРОЧЫЦЬ КАХАННЕ

**Як вядома, словы ад частага выкарыстання губляюць свой сэнс. І ўсё ж размова наша пойдзе пра каханне...**

**Паводле старажытнай легенды, чалавек некалі быў двухполай істотай. Моцны і магутны, яму не патрэбна было нічога, акрамя ўлады, і таму ён замахнуўся на ўладу саміх багоў. Вярхоўны Бог, разззлаваўшыся на свавольства чалавека, падзяліў яго на дзве часткі, і з таго часу кожны паўчалавек, названы «мужчынам» ці «жанчынай», асуджаны блукаць па свеце ў пошуках сваёй палавінкі, якая належыць толькі яму аднаму.**

**Сотні і тысячы раманаў, п'ес, кінафільмаў, якія расказваюць аб закаханых, заканчваюцца замілавальным вясельным пацалункам пад дружныя воклічы «Горка! Горка!», за якім ідзе беглае ўпамінанне: яны жылі доўга і шчасліва і памерлі ў адзін дзень. А вось аб тым, як жа пражыць жыццё шчасліва, як знайсці адзін аднаго, а таксама аб праблемах маладой сям'і, і пойдзе размова ў нашай новай рубрыцы. Як гаварыў Бернард Шоу, «каханне — вельмі вялікае пачуццё, каб быць толькі асабістай інтымнай справай кожнага».**

## ЗДАРОУЕ ЖАНЧЫНЫ — ЗДАРОЎЕ НАЦЫІ

**Днямі ў Мінску было аб'яўлена аб адкрыцці Цэнтра здароўя жанчыны. Гэта новая доўгатэрміновая праграма будзе рэалізоўвацца Хрысціянскім дзіцячым фондам, Беларускім дзіцячым фондам, універсітэтам штата Вірджынія, ААН і фондам Сораса. Уся ўвага цэнтра будзе сканцэнтравана на ахове здароўя жанчыны. У рамках праграмы, на базе 8-й гарадской бальніцы, пачынае работу кансультацыйны цэнтр, дзе жанчыны змогуць атрымаць кампетэнтную дапамогу спецыяліста, а для будучых маці будуць арганізаваны спецыяльныя курсы.**

Пад асобны кантроль узяты два радзільныя дамы і два загсы Мінска. У Інфармацыйным тэндэрным цэнтры (будынак Міністэрства сацыяльнай абароны) ствараецца бібліятэка па пытаннях аховы здароўя жанчын. Там спецыялісты змогуць заказаць любую кнігу, выдадзеную ў любым рэгіёне свету, і атрымаць яе на працягу 2-3 тыдняў. Такім чынам будзе вырашана праблема інфармацыйнага голаду і асветніцтва, якая вельмі востра стаяла ў нашай краіне.

Акрамя таго, цэнтр запрашае прэтэндэнтаў на суісканне грантаў з мэтай аказання падтрымкі праектам, у рамках якіх вырашаюцца пытанні аховы здароўя жанчын, арганізацыі асветніцкай работы і прапаганды здаровага ладу жыцця сярод насельніцтва.

**Наталля ГУСАКОВА.**

## КАЛІ СВАЙГО ВОПЫТУ НЯМА, ЯГО ТРЭБА ПЕРАЙМАЦЬ

**Колькі б ні гаварылі аб неабходнасці палавога выхавання і асветы нашага грамадства, колькі б ні біліся ўрачы, педагогі і бацькі, спрабуючы абараніць сваіх дзяцей, усе іхнія спробы будуць марнымі, пакуль не пачнецца ажыццяўленне дзяржаўных праграм.**

У гэтай галіне нам нядрэнна было б звярнуцца да вопыту іншых развітых краін. Так, напрыклад, у Галандыі дзяржавай дакладна вызначаны нават статус прастытуткі. Нягледзячы на род дзейнасці, ніхто не павінен пацярпець ад элементарнага няведання ці недахвату неабходнай інфармацыі — такой думкі прытрымліваецца ўся галандская грамадскасць. Для прастытутак тут выпускаюцца спецыяльныя каляровыя ілюстраваныя дапаможнікі, выкананыя ў выглядзе малюнкаў з тэкстам да іх. У іх змяшчаецца, напрыклад, карысная інфармацыя, як неабходна паводзіць сябе з кліентам, каб засцерагчыся ад венерычных захворванняў, а калі ўсё ж гэта здарылася, куды можна звярнуцца, з указаннем адрасоў. Прычым каштуе такі дапаможнік даволі дорага. Чаму, пацікавіцеся вы, у нас такая «папулярная» літаратура даступная для многіх. Вось тут якраз і тоіцца адрозненне нашай і іх псіхалогіі. Галандцы разважаюць так: калі рэч танная — значыць яна не мае ніякай каштоўнасці.

Мы не заклікаем нікога кідацца выпускаць дапаможнікі для прастытутак, нам бы разабрацца спачатку з выхаваннем падлеткаў. Чаму б не выпускаць і нам яркія ілюстраваныя дапаможнікі, якія прыцягвалі б увагу і выклікалі жаданне зазірнуць у іх? Бадай, такія кнігі давалі б магчымасць гаварыць аб фізіялагічных праблемах полу без прывычнага для нашага грамадства ханжаства і былі б карысныя не толькі для падлеткаў.



Фота Сяргея РАСОЛЬКІ.

## СЯМЕЙНЫ ЛЕТАПІС ПАЧЫНАЕЦЦА З ПЕРШЫХ КРОКАЎ

**Прыемны сюрпрыз зрабіў маладым сем'ям, у якіх з'явіўся на свет малыш, рэкламна-выдавецкі аддзел часопіса «Беларуская думка». Менавіта яму належыць ідэя стварэння своеасаблівай сямейнай кнігі, запаўненне якой пачынаецца з моманту нараджэння дзіцяці аж да 2100 года. Менавіта столькі, не менш, жадаюць пражыць новананароджанаму грамадзяніну Рэспублікі Беларусь аўтары выдання.**

На першую старонку заносяцца час нараджэння, вага, знак Задыяка, планета, дрэва па Галійскаму гараскопу, кветка і камень дзіцяці. У першыя дні яго існавання малышу запісваюць пажаданні тата і мама, дзядулі і бабулі. Пройдзе зусім нямнога часу, і ў навагоднюю ноч 2000-га года яны зноў звернуцца да яго.

Калі ж ваша дзіця падрасце, у яго будзе магчымасць заняцца вывучэннем свайго генеалагічнага дрэва і запоўніць графу «ад бацькоў да прапрадзедаў». А пачынаючы з 2000 года ён пачне штогод фіксаваць у памяці самыя значныя падзеі, што адбыліся з ім у гэты год.

Акрамя таго, «Запавет грамадзяніну» — гэта яшчэ і кніга для чытання, якая вучыць дзяцей маральнасці. Яна выхоўвае павагу да сваіх нацыянальных каранёў і беларускага народа, знаёміць з галоўнымі хрысціянскімі запаведзямі.

Задума кнігі здаецца цікавай, вось толькі чорна-белае выкананне вымушае жадаць лепшага. Ну што ж, не ўсё адразу, але, галоўнае, лёд крануўся.

Набыць выданне, што вас зацікавіла, можна ў гарадскіх і раённых аддзелах ЗАГСаў, а таксама праз рэдакцыю часопіса «Беларуская думка».

## ЛЕПШ СВОЕЧАСОВА ПАПЯРЭДЗІЦЬ, ЧЫМ СПАЗНІЦЦА

**Што такое палавое развіццё, якія яго этапы, сексуальныя паводзіны чалавека і яго фізіялогія, гігіена пола, цяжарнасць і роды, калі можна пачынаць палавое жыццё — гэтыя і многія іншыя пытанні рана ці позна пачынаюць хваляваць падлеткаў. На жаль, нямногія бацькі і педагогі гатовы ў тактычнай і прымальнай для дадзенага ўзросту форме даць на іх кампетэнтны адказ.**

Здавалася б, паток інфармацыі, якая асвятляе гэтыя тэмы, у літаральным сэнсе абрушыўся на нашых дзяцей з экранаў тэлевізараў, старонак газет, часопісаў і кніг. Быццам бы місія дарослых значна аблегчылася. Але на самай справе ўсё не так проста: разабрацца ў гэтым патоку інфармацыі падлеткам зусім нялёгка. І вось тут ім на дапамогу гатовы прыйсці спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра «Шлюб і сям'я», пры якім пачаў дзейнічаць інфармацыйны цэнтр, адной з задач якога з'яўляецца сексуальная адукацыя падлеткаў. Да іх увагі тут прапануецца прагляд відэафільмаў. Акрамя таго, урач па планаванню сям'і і андролаг раскажуць хлопчыкам і дзяўчынкам аб спосабах кантрацэпцыі, прафілактыцы венерычных захворванняў, асаблівасцях фізіялагічнага развіцця мужчын і жанчын. Таму бацькі і педагогі ў стане прадаставіць дзецям магчымасць атрымаць інфармацыю, якая іх цікавіць, з першых рук. Для гэтага неабходна звярнуцца ў рэгістратуру Рэспубліканскага цэнтра «Шлюб і сям'я» па тэлефоне 37-16-26 і назначыць час для сустрэчы. Дарэчы, запіс на прыём да ўрача праводзіцца такім жа чынам. Усё лячэнне для грамадзян Рэспублікі Беларусь, якое праводзіцца ў цэнтры, бясплатнае.

# КАЛІ ВЫ НЕ ЧАКАЕЦЕ БУСЛА

**Вучоныя сцвярджаюць, што сям'я — сацыяльная мікраструктура, у ёй пераплятаюцца самыя разнародныя віды чалавечай жыццядзейнасці: біялагічнай і сацыяльнай, асабістай і грамадскай, духоўнай і матэрыяльнай.**

А народная мудрасць гаворыць: дом трымаецца на чатырох вуглах, а сям'я — на двух галовах. Чатыры вуглы сямейнага ачага — гэта ўзаемнае каханне, узаемная вернасць, узаемная павага і ўзаемная дапамога. У якасці стваральнікаў, захавальнікаў сямейнага ачага муж і жонка аднолькава адказныя за яго лёс, трываласць і даўгавечнасць шлюбу, у роўнай меры вызначаюць гармонію шлюбных адносінаў.

Рана ці позна перад кожнай маладой парай паўстае пытанне — нарадзіць дзіця ці пачакаць з яго з'яўленнем. Нараджэнне дзіцяці — падзея важная ва ўсіх адносінах. Цяпер эканамічныя цяжкасці сталі прычынай таго, што не заўсёды нараджэнне малыша ў сям'і становіцца радасцю. Пра тое, што ж трэба зрабіць, каб дзіця з'явілася на свет менавіта тады, калі яго больш за ўсё чакаюць, мы і пагаворым сёння.

Усім добра вядомую фразу «Беражыце жанчын» даўно ўжо час пераадрасаваць самім жанчынам. Колькасць абортаў, зробленых жанчынамі нашай краіны ў 1995 годзе — 200 тысяч (!), — найбольш яркае таму пацвярджэнне. Гэтая лічба павінна, нарэшце, прымусіць жанчын паклапаціцца пра сваё здароўе. За нямой статыстыкай стаяць скалечаныя жаночыя лёсы, таму што перанесены аборт, як правіла, рана ці позна дасць аб сабе знаць: ён наносіць непапраўную шкоду арганізму маладой жанчыны ці наогул можа пазбавіць яе радасці мацярынства.

Ці не лепш не чакаць, пакуль грымне гром, а паклапаціцца пра сябе самой?

Каб атрымаць неабходную інфармацыю па гэтаму пытанню, я накіравалася да ўрача па планаванню сям'і Рэспубліканскага цэнтра «Шлюб і сям'я» Наталлі Шаціла.

З даўніх часоў людзі былі заклапочаны пошукам надзейных сродкаў абароны ад цяжарнасці, прычым пошукі гэтыя вяліся ў двух напрамках: як, з аднаго боку, абараніць жанчыну, а з другога — нейтралізаваць мужчыну.

Бадай, самым распаўсюджаным і даступным сродкам з'яўляецца прэзерватыў, знаёмы яшчэ старажытным рымлянам. У часы распаўсюджвання хрысціянства гэты спосаб абароны быў забыты і зноў адкрыты толькі ў XVI стагоддзі італьянскім урачом Габрыэле Фалопіем, які пацвердзіў яшчэ раз вядомую ісціну: усё новае ёсць моцна забытае старое. Фалопій шукаў надзейны спосаб абароны ад сіфілісу і прапанаваў пры палавых зносінах надзяваць на пеніс палатняны мяшочак, змочаны ў спецыяльным лякарстве. Пазней французы сталі вырабляць прэзерватывы з тонкіх авечых кішак. І толькі ў канцы XIX стагоддзя прэзерватывы пачалі вырабляць з гумы.

Звяртаюцца жанчыны таксама да выкарыстання каўпачкоў і спіраляў, але тут ужо без умяшання ўрача-гінеколага і яго кансультацыі абысціся немагчыма.

А найбольшай папулярнасцю ва ўсім свеце карыстаюцца хімічныя процізачаткавыя сродкі. У нашым грамадстве неяк самі сабой склаліся прадузятыя адносіны да гарманальных процізачаткавых сродкаў. А між тым процізачаткавыя таблеткі, што з'явіліся 30 гадоў назад, лічацца сёння самым надзейным сродкам папярэджання цяжарнасці.

Недавер да аральных кантрацэптываў (АК) звязан з няправільным уяўленнем, што «гармоны выклікаюць рак» і адсутнасцю інфармацыі аб новых відах АК са зніжанай дозай гармонаў, якія значна радзей выклікаюць пабочныя з'явы. У прэпаратах 3-га пакалення прадугледжана мінімальнае ўтрыманне гарманальных кампанентаў. Трэба адзначыць, што сучасныя процізачаткавыя таблеткі валодаюць таксама лячэбным эфектам: на 50 працэнтаў зніжаецца рызыка захворвання на рак яечнікаў і рак маткі, вылечваюцца парушэнні рэгуляцыі менструальнага цыкла, палавыя запаленні, ажыццяўляецца прафілактыка фібраміёмы маткі.

**— Як дзейнічаюць АК?**

— Дзеянне АК заключаецца ў падаўленні працэсу авуляцыі, г. зн. прэпарат перашкаджае выхаду яйцаклеткі з яечніка.

**— Што павінна ведаць жанчына, перш чым пачаць прыём АК?**

— Перш за ўсё трэба паказацца гінеколагу і абмеркаваць з ім магчымасць выкарыстання АК з улікам стану здароўя, узросту і г. д. Жанчына павінна ведаць, што атлусценне, курэнне, узрост старэй 40 гадоў павялічваюць частату магчымых ускладненняў.

**— Як доўга можна прымяняць АК?**

— Пры добрай пераноснасці і адсутнасці пабочных рэакцый АК можна прымяняць на працягу некалькіх гадоў з улікам рэкамендацый урача.

**— Што трэба мець на ўвазе, прымаючы АК?**

— Перш чым пачаць прыём процізачаткавых таблетак, жанчына абавязкова павінна абследавацца ў гінеколага. Потым кантрольныя абследаванні рэкамендуецца праводзіць адзін ці два разы ў год.

**— Многія жанчыны здольныя да зачацця ўжо ў першы месяц пасля спынення прыёму гарманальных кантрацэптываў. Нярэдкія выпадкі наступлення цяжарнасці ўжо ў першыя цыклы пасля спынення прыёму таблетак...**

— Гарманальныя рэчывы паводзяць сябе ў жаночым арганізме як аўтагенныя, прымаючы ўдзел у абмене рэчываў. Гэта азначае, што ў ходзе фізіялагічных працэсаў, што адбываюцца ў арганізме здаровай жанчыны, гэтыя прэпараты раскладаюцца і выходзяць з арганізма. Значыцца, няма ніякіх падстаў баяцца накаплення гармонаў у вашым арганізме.

У завяршэнне вышэйсказанага заўважым, што ўрачы настойліва рэкамендуюць пры выбары таго ці іншага аральнага кантрацэптыва, а іх цяпер у нас шырокі асартымент, не спадзявацца на вопыт сяброўкі, а звярнуцца па кансультацыю да спецыяліста-гінеколага, жаночую кансультацыю ці ў Рэспубліканскі цэнтр «Шлюб і сям'я». На прыём да ўрача па планаванню сям'і жанчына можа прыйсці адна ці з мужам, таму што праблема кантрацэпцыі не толькі яе асабістая праблема. Мужчына абавязкова павінен несці адказнасць за сваю жонку ці сяброўку.

**Старонку падрыхтавала Надзея НІКАЛАЕВА.**

## УСМЕШКА МАСТАКА



Малюнак М. ГАРЭЛАВАЙ.







Малюнкі Л. РАЗЛАДАВА.

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 3. Ручка шаблі, шпагі. 5. Уранавае радовішча ў Нігерыі. 9. Прыток Нёмана. 10. Курортны горад на Чарнамор'і. 11. Гара ў наваколлі горада Пяцігорска. 13. Парламенцкая працэдура адхілення вышэйшай службовай асобы ад пасады. 15. Невялікая вулачка паміж паралельнымі вуліцамі. 17. Галоўны персанаж рамана І. Шамякіна «Вазьму твой боль». 18. Зямельнае валоданне ў Амерыцы. 19. Беларускі народны танец. 22. Сістэматызаваны звод звестак аб прыродных запасах вады, рэжыме зямель, лясных рэсурсах. 24. Пісьменніцкае аб'яднанне на Беларусі ў 20-я гады. 25. Беларускі паэт, аўтар зборніка «Жніво». 27. Правоз тавараў праз прамежкавыя пункты. 28. Вымяральная лінейка з мікраскопамі на канцах. 30. Дарожна-будаўнічая машына. 32. Лірычны жанр паэзіі. 34. Агародная расліна. 36. Пагадненне з узаемнымі ўступкамі. 38. Бухта на ўзбярэжжы Турцыі. 39. Лёгкая крамністая горная парода, якая ўжываецца ў ліцейнай вытворчасці. 40. Опера-балет М. Рымскага-Корсакава. 41. Твор беларускага жывапісца Ф. Рушчыца. 42. Частка сусвету.

**Па вертыкалях:** 1. Грашовая адзінка Афганістана. 2. Характар надвор'я, уласцівы пэўнай мясцовасці. 4. Майстар меткай стральбы. 5. Адлучэнне ад царквы, праклён як самая высокая кара. 6. Расліна сямейства грэчкавых, багатая вітамінамі і кіслотамі. 7. Народны паэт Беларусі, аўтар кнігі вершаў «Пры святле маланак». 8. Старажытная залатая манета. 12. Эмблема на форменным галаўным уборы (разм.). 14. Афіцэрскае званне ў арміі, міліцыі і г. д. 16. Паэма Н. Тулупавай. 17. Скульптура А. Заспіцкага. 20. Адміністрацыйны цэнтр Тыбецкай аўтаноміі. 21. Жанр паэзіі. 22. Прыстань на рацэ Сож. 23. Асобы, якія суправаджаюць высокапастаўленую асобу. 26. Міжнародная арганізацыя крымінальнай паліцыі. 27. Дахавы ізаляцыйны матэрыял. 29. Гродзенскае хімічнае вытворчае аб'яднанне. 30. Складаная машына, якая выконвае работу некалькіх механізмаў. 31. Каштоўная прамысловая рыба. 33. Высокая ступень творчай адаронасці. 35. Сістэма дзяржаўных органаў. 36. Ансамбль спевакоў. 37. Населены пункт у Крыме, у наваколлі якога размешчана абсерваторыя.

**Склаў Валерый ПІНЧУК.**
г. Бабруйск.



### АДКАЗЫ І РАШЭННІ

**Крыжаванка-пераклад (24 лютага). Па гарызанталях:** 1. Козыт. 3. Конік. 5. Кажан. 8. Каласаванне. 11. Навука. 12. Літара. 15. Слота. 16. Валадар. 17. Адхон. 19. Пагорак. 20. Андарак. 22. Рогат. 23. Акравак. 24. Вапна. 27. Ганчак. 28. Дранік. 32. Уразлівасць. 33. Абраз. 34. Гузак. 35. Нерат. **Па вертыкалях:** 1. Кутас. 2. Тупат. 3. Кавун. 4. Краска. 5. Коннік. 6. Нафта. 7. Рахунак. 9. Святкаванне. 10. Вандраванне. 13. Маланка. 14. Маёнтак. 15. Сябар. 18. Нізка. 21. Чаравік. 25. Капрыз. 26. Працяг. 27. Глеба. 29. Карак. 30. Язмін. 31. Кабат.

**Крыптаграма (24 лютага).** Ключавыя словы ў ёй: бацькі, крыўда, плот, мова, песты. А зашыфраваная прымаўка такая: «Дармавы сыр бывае толькі ў пастцы».

**Галаваломка (24 лютага).** Ключык для разгадкі прымаўкі схаваны ў цэнтральным квадраце. Лічбы ў верхнім гарызантальным радку і рыскі ў першым вертыкальным слупку дапамагаюць паставіць кожную літару на сваё месца. Калі гэта будзе зроблена, то можна прачытаць прымаўку: «Добрае слова даражэйшае за багацце».

**Вакол 15... (24 лютага).** У левым квадраце — адзін з варыянтаў адказу, калі па ўсіх трох гарызантальных радках, трох вертыкальных слупках і абедзвюх дыяганалях сума роўная 15. У правым квадраце — адзін з варыянтаў адказу, калі па ўсіх трох радках, трох слупках, па абедзвюх дыяганалях ўсе сумы розныя.

| | | |
|---|---|---|
| 2 | 7 | 6 |
| 9 | 5 | 1 |
| 4 | 3 | 8 |

| | | |
|---|---|---|
| 1 | 5 | 3 |
| 2 | 7 | 6 |
| 4 | 8 | 9 |

*Сардэчна віншуем з юбілеем Барэль (Хурсік) Таццяну Уладзіміраўну з Асіповіч. Жадаем моцнага здароўя, радасці ў дзецях, шчасця.*
**Радня.**



***На станцыі метро «Усход» 13 мая 1995 года ў 19 гадзін 27 хвілін у час выхаду з вагона поезда дзвярыма, якія зачыняліся, былі збіты з ног старая і мужчына.***

**Відавочцаў прашу пазваніць па тэл.: 23-93-23 (сл.) або 65-71-69 (хат.). Шэршань.**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**2 сакавіка,** як мяркуецца, **1520 года,** Францыск Скарына адкрыў у Вільні друкарню.

**2 сакавіка 1581** года быў утвораны трыбунал Вялікага княства Літоўскага. Галоўны літоўскі трыбунал быў вышэйшым апеляцыйным судом дзяржавы. Яго пасяджэнні праводзіліся ў Вільні, Троках, Новагародку.

**У гэты дзень у 1918 годзе** выйшаў першы нумар газеты «Дзянніца» — органа беларускага нацыянальнага камісарыята. Рэдактарамі былі Ц. Гартны, Янка Нёманскі (І. Пятровіч), П. Каравайчык. Выдавалася да лютага 1919 года.

**2 сакавіка 1931 года** нарадзіўся М. С. Гарбачоў, савецкі і партыйны дзеяч, першы і апошні прэзідэнт СССР.

### Цікава...

Калі вы гаворыце няпраўду, ваш нос становіцца даўжэйшым, чым у Пінокіо, які заўсёды ўсё перабольшваў!

Такое меркаванне доктара Вендзі Макфар, якая праводзіла даследаванне і выявіла, што насы дарослых людзей выраслі прыблізна на адну дзесяцітысячную сантыметра кожны раз, калі яны хлусілі. Гэтая з'ява была названа «Эфектам Пінокіо».

— Магчыма, адна дзесяцітысячная сантыметра — гэта не так ужо многа, але за ўсё жыццё чалавека набіраецца даволі, калі ён часта хлусіць, — сказала рэпарцёрам псіхолаг. — Калі вы кажаце няпраўду ў сярэднім тры раза на дзень, то за год набіраецца каля тысячы. Менш, чым за 10 гадоў жыцця вы схлусіце 10 тысяч разоў, і да вашага носа дабавіцца цэлы сантыметр.

Д-р Макфар праводзіла даследаванне ў 1991—94 гадах, вывучыўшы 110 мужчын і жанчын. Даследуемых далучалі да мноства розных складаных прыбораў, уключаючы тыя, што прызначаны для вымярэння крывянога ціску, ваганняў мозгу і электрычнай энергіі на паверхні скуры. Надзвычай высокія паказчыкі электрычнай актыўнасці на кончыку носа падказалі ёй сканцэтраваць вывучэнне менавіта гэтай часткі цела. Тады яна і выявіла, што нос павялічваецца ў даўжыню, хоць і нязначна, калі людзі кажуць няпраўду.

— Пакуль мы не змаглі вызначыць, што менавіта стымулюе рост носа, калі людзі хлусяць, — сказала д-р Макфар. — Магчыма, гэта мае нейкія адносіны да крывянога ціску, сардэчных рытмаў, якія, як вядома, мяняюцца, калі чалавек хлусіць. Гэта можа спрыяць выпрацоўцы адпаведных гармонаў.

Даволі дзіўна, лічыць псіхолаг, але, відаць, памер хлусні не робіць уплыву на хуткасць росту носа.

### Што ў імені маім

Светлыя і мілагучныя спалучэнні гукаў надаюць імёнам, якія лепш за ўсё падыходзяць людзям, народжаным пад **знакам Шаляў,** элегантнасць і гарманічнасць. Вось якія імёны рэкамендуецца даваць **Шалям-мужчынам:** Аляксей, Анатоль, Антон, Альберт, Барыс, Бажэн, Віктар, Вікенцій, Кім, Любамір, Марк, Міхаіл, Міраслаў, Павел, Філіп, Эдуард, Яўген; для **Шаляў-жанчын:** Альбіна, Антонія, Анжэла, Бэла, Вераніка, Вікторыя, Алена, Злата, Ілона, Карына, Клемянціна, Клёна, Клара, Канстанцыя, Ліка, Моніка, Нэлі, Паліна, Святлана, Стэфанія, Эла, Яўгенія.

### Ваша здароўе

***Сачыце за ротам: ён — індыкатар вашых будучых захворванняў. На думку медыкаў, рот можа паказаць вам загадзя, якія менавіта хваробы падпільноўваюць вас у будучым.***

Дзясны, якія краваточаць, могуць азначаць няправільнае харчаванне або дэфіцыт вітаміну С.

Сухасць ці трэшчынкі ў куточках рота азначаюць дэфіцыт вітаміну В.

Сухія ці патрэсканыя губы могуць быць адлюстраваннем алергічнага стану.

Сухі рот можа азначаць цукровы дыябет ці электралітычную неадпаведнасць, напрыклад, недахват калію.

Гладкі, чырванаватага колеру язык адлюстроўвае алергічную рэакцыю, высокую тэмпературу, дрэннае харчаванне ці вітамінны дэфіцыт.

Цёмныя прожылкі ці плямы на языку ўказваюць на адсутнасць бактэрыяльнай раўнавагі ў роце з-за антыбіётыкаў. А гэта можа стымуляваць узнікненне захворання пад назвай кандыдыязіс, якое выклікае язвы ў роце.

### Анекдот

*Луіджы ўвесь у слязах выбягае з вакзала на перон і лямантуе:*

*— Божа мой, божа мой, я спазніўся на поезд!*

*— Сеньёр, чаго вы так крычыце? — пытаецца ў яго дзяжурны па станцыі.*

*— Я спазніўся на поезд.*

*— На колькі?*

*— На тры хвіліны!*

*— Святая мадонна! А крычыце так, быццам спазніліся гадзіны на дзве!*


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.



*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*





Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 1114.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12